



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

29 лістапада 2019 года №48 (1283) 18+


## З мігалкамі па Маладзечне. Нарад ДПС суправадзіў машыну з парадзіхай. Паспелі!



старонка 7

На фота: маладыя бацькі Ганна і Аляксей Выгоўскія з выканальнікам абавязкаў намесніка начальніка Маладзечанскага РАУС Сяргеем Пузыровым і інспектарамі ДАІ Дзмітрыем Адамовічам і Ягорам Гілем. Фота забяспечанае Юліяй КРУК.

## Чаму ў Маладзечне цяжка наняць кватэру

старонка 19







## Ад студзеня ў «жыроўках» з'явіцца новы радок. Ці будзем мы з-за гэтага плаціць больш?

старонка 3

## Маладзечанца вінавацяць у дамаганні да дзяўчынак. Малодшай – чатыры гады

старонка 4

ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Такая падзея выпадае раз на жыццё

## Жыхары рэгіёна ўдзельнічалі ў пахаванні паўстанцаў у Вільні

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ

**22 лістапада ў Вільні праходзілі жалобныя мерапрыемствы па пахаванні парэшткаў удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863-1864 гадоў, у тым ліку кіраўнікоў – Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага.**



Вілейчукі высыпаюць зямлю з магіл паўстанцаў Вілейшчыны ля капліцы, дзе пахавалі Каліноўскага.

У цырымоніі ўдзельнічалі жыхары з Маладзечна, Вілейкі, Мядзела. Мы распыталі некаторых з іх пра ўражанні ад падзеі.

### Алеся Каролік: пабачылі парэшткі людзей, якія аддалі жыццё за незалежнасць

Педагог-арганізатар Маладзечанскага музкаледжа імя Агінскага **Алеся Каролік** вырашыла ехаць на пахаванне паўстанцаў адразу ж, як даведалася пра мерапрыемства ў СМІ. Маладзечанцы – сябры фонду Міхала Клеафаса Агінскага – ехалі арганізавана на мікрааўтобусе. Выехалі а чацвертай гадзіне раніцы 22 лістапада. Па словах Алесі, мяжу прайшлі хутка, ніякіх пытанняў памежнікі не задавалі.

– Адразу, як прыехалі, выправіліся да катэдры, каб пабачыць парэшткі тых, хто аддаў сваё жыццё за нашу незалежнасць, – кажа дзяўчына. – Надвор'е было жудаснае. Вецер з усходу пранізваў да касцей усіх, хто сабраўся ў Вільні, каб аддаць даніну павагі і ўдзячнасці нацыянальным героям.

Маладзечанцы выстаялі набажэнства і паслухалі прамовы літоўскага і польскага прэзідэнтаў. А пасля далучыліся да ўсеагульнага шэсця на могілкі.

– Не хопіць слоў, каб апісаць атмасферу і пачуцці, якімі поўніліся нашы сэрцы! Вочы напаўняліся слязьмі ад разумення таго, што пасля 155 год душы і целы паўстанцаў знайшлі супакой. Пакуль чакалі пачатку шэсця, гутарылі з мясцовымі жыхаркамі – маці і дачкой. Жанчына пачала пытацца пра нашы нацыянальныя сцягі, ці можам мы імі карыстацца ў краіне. Мы расказалі, як ёсць. На што жанчына сказала: «Нас таксама ў 1986 білі за сцягі, а ў 1987 перасталі». І ў кожнага з нас чыталася ў вачах, што і ў нашай краіне наступіць «1987 год», – дзеліцца Алеся.

### Станіслаў Брыль: пытанне, ехаць ці не, нават не паўставала

Прадпрымальнік з Вілейкі **Станіслаў Брыль** расказаў карэспандэнту, што пытанне, ехаць ці не ехаць, нават не паўставала для яго.

– Нарэшце Кастусь і паплечнікі знайшлі супакой і годнае месца, – кажа віляйчук. – Вельмі ўразіла арганізацыя, зладжаная літоўскімі ўладамі. Кожнае дзеянне было выверана, але без перабору. Праз калідор жаўнераў, дзе ішлі віп-персоны, маглі праехаць на роварах дзеці. Па ходніках ішлі мясцовыя жыхары. Прэзідэнта Польшчы людзі віталі воклічамі, ён паварочваўся і вітаў іх. Толькі наша афіцыйная дэлегацыя прайшла нібы праз стан ворагаў. Хуценька і не падымаючы галоў. А нас – беларусаў – была большасць.

Дабраліся да Вільні вілейчукі кампаніяй на аўтамабілі. Паехаць атрымалася не ва ўсіх, хто планаваў. Некаторыя не атрымалі візы. Прайшлі ўвесь шлях: развітанне ў катэдры, выступленні віп-прадстаўнікоў дзяржаў, пешшу, з працэсіяй да могілак Росы, працэдуру пахавання. Ад восьмай гадзіны да амаль 17-й.

– Везлі з сабой зямлю з месцаў пахавання паўстанцаў на Вілейшчыне : з Уладыкаў, Куранца, Бітага Логу, што ля Каралеўцаў. Зямлю высыпалі пад капліцай, дзе пахавалі Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў, – распавядае суразмоўца.

Напрыканцы вілейчукі наведалі канцэрт беларускага гурта «Дзецюкі». Тут, па словах Станіслава, нягледзячы на стомленасць, пелі, жвава танцавалі, разам з усімі крычалі «Жыве Беларусь!».

– Вільня – вельмі прыгожы і прыстойны горад. Дзень выдаўся халодны, дзьмуў моцны вецер. Вытрымаць амаль дзевяць гадзін на паветры было б нялёгка. Але мноства невялікіх утульных кавярняў дапамаглі нам захаваць свае і сілы, і здароўе.

### Віктар Тонкавіч: герой не бывае белы і пушысты

Віляйчук **Віктар Тонкавіч** працуе ў Польшчы. Адтуль і прыехаў на пахаванне ў Вільню. Сустрэўся са сваімі вілейскімі землякамі, разам з якімі ездзіў браць зямлю на магілы паўстанцаў на Вілейшчыне.

– Такая падзея можа выпасці раз на жыццё, – кажа Віктар. – Неабходна шанаваць сваіх герояў. Цяпер шмат спрачаюцца пра асобу Каліноўскага. Так, ён не быў белы і пушысты, якімі любяць паказваць савецкіх герояў. Некаторыя націскаюць на тое, што Каліноўскі быў за саюз з Польшчай. Але на якой мове ён размаўляў? На якой выдаваў сваю «Мужыцкую праўду»? Так, лацінкай, але па-беларуску. А мова для мяне – найпершы паказчык прыналежнасці да таго ці іншага народа. Ды і нарадзіўся Каліноўскі на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Для мяне ён – беларус-ліцвін.

Віктар адзначае: было прыемна, што прыехала шмат беларусаў. Бел-чырвона-белыя сцягі зліваліся з чырвона-белымі польскімі – і ўся плошча была бела-чырвонай. А яшчэ мужчына заўважыў сцяг Ізраіля.

Спадабалася прастата адносін з людзьмі літоўскага і польскага прэзідэнтаў, тое, што яны не баяліся людзей. Не з усім быў згодны ў прамове кіраўніка беларускай дэлегацыі **Ігара Петрышэнкі**. Аднак з прыемнасцю адзначыў, што той гаварыў на добрай беларускай мове.

– А яшчэ падалося, што літоўцы ўсё ж лічаць Каліноўскага больш сваім героем. У капліцы, дзе хавалі паўстанцаў, труна Зыгмунда Серакоўскага была перавязаная стужкай у колерах польскага сцяга, а труна з Каліноўскім – у колерах літоўскага.

Побач з капліцай, дзе пахаваныя паўстанцы, цяпер ёсць зямля не толькі з Вілейшчыны, але і з Мядзельшчыны. Яе прывёз з Княгініна мядзельчанін **Віктар Кавальчук**. Таксама мужчына прывёз у Вільню партрэт Каліноўскага, які намаляваў сам.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06


**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі ў суполках газеты ў сацсетках

«Былі і ў наш час героі, якія аддалі жыцці за свабоду: Ганчар, Захаранка, Завадскі, Красоўскі, Карпенка. Надыдзе час, калі памяць аб іх ушануюць нашчадкі».
**Аляксандр.**

«Мне, неразумнай, вельмі б хацелася ведаць, пра якую свабоду і волю ідзе тут рык? Для каго тут волю здабывалі? А па-другое: навошта вы цягаеце па свеце косткі памерлых? Па ўсіх канонах, гэта – найвялікшы грэх. А па-трэцяе. Ці ўпэўненыя, што гэта косткі Кастуся Каліноўскага?».
**Марыя.**

«Ніхто іх па свеце не цягае. Іх дасталі з ямы, у якую іх паскідалі расейцы, і пахавалі на могілках там жа ў Вільні па хрысціянскіх абрадах».
**Аляксандр.**

«Жыве Беларусь! »
**Рамуальд.**

«Пахавалі вельмі кранальна і годна, на ўвесь свет паказалі, як трэба шанаваць сваіх герояў. Валяліся косткі абы-як, у кракет над імі гулялі, а зараз будуць у адным добрым месцы, куды кожны зможа прыйсці і ўшанаваць людзей. Гэта наша гісторыя, дачакаліся, нарэшце, героі годнага пахавання, адбылася справядлівасць».
**Аксана.**

# У «жыроўках» з'явіцца новы радок

## Ці будзем за яго плаціць больш? Ці стане нам лепш?

**Ад студзеня ў нашых жыроўках з'явіцца новы радок – «Кіраванне агульнай маёмасцю». Гэта адна са змен, прапісаных у новым Жыллёвым кодэксе, што пачне дзейнічаць ад пачатку 2020 года.**



Радкоў шмат. Ад студзеня стане больш.

Давайце разбяромся, што такое агульная маёмасць, хто будзе ёй кіраваць і ці станем мы з-за гэтага радка больш плаціць за кватэру.

### Што такое агульная маёмасць у шматкватэрным доме

Згодна з рэдакцыяй новага Жыллёвага кодэкса, агульная маёмасць – гэта памяшканні, размешчаныя за межамі кватэр і патрэбныя для абслугоўвання двух і больш жылых або нежылых памяшканняў, а таксама дахі, рознае абсталяванне, групавыя прыборы ўліку вады, цяпла, электрычнасці, прыдамавая тэрыторыя і размешчаныя на ёй пабудовы, зеляніна, клумбы.

### Эксперт Генадзь Калёнаў: калі ЖЭС выконвае паслугі і кантралюе – гэта няправільна

Пра новаўвядзенне ў сістэме ЖКГ карэспандэнту распавёў выканаўчы дырэктар Міжнароднай асацыяцыі менеджменту нерухомасці **Генадзь Калёнаў.**

– Радок «Кіраванне агульнай маёмасцю» з'явіцца ў нашых «жыроўках», але дадатковай аплаты ад грамадзян гэта не запатрабуе. Выдаткі на ўтрыманне кіраўнічага персаналу ўжо даўно закладзеныя ў розных тарыфах на камунальныя паслугі: напрыклад, за вываз смецця ці падагрэў вады. Цяпер дробныя часткі злучацць у адну.

Па словах Генадзя, для Беларусі гэта не зусім новая практыка. На Брэстчыне яна дзейнічае сёлета і незадаволенасці не выклікае. Новаўвядзенне прынясе дагаворныя адносіны, будзе рэгуляваць правы ўласнікаў і абавязкі службы заказчыкаў. Функцыі заказчыка і падрадчыка размяжуюцца. Заказчыкам ад студзеня стане кіраўнічы апарат – менеджары, а падрадчыкамі – розныя дзяржаўныя і недзяржаўныя арганізацыі, якіх менеджары будуць наймаць для аказання паслуг.

– Пакуль атрымліваецца, што нейкі ЖЭС выконвае паслугі і ён жа кантралюе іх якасць. Гэта ставарае праблемы. Цяпер будзе выкананне – асобна, кантроль – асобна. Кіраўнічы апарат будзе знаходзіць падрадчыкаў і кантраляваць іх, а не рабіць рамонты, – тлумачыць Генадзь.

Падрадчыкаў будуць шукаць праз конкурс. І па першым часе, упэўнены эксперт, будзе выйграваць манапаліст – якое-небудзь ЖЭУ, бо пра іншых мала ведаюць.

**Але з часам з'явяцца іншыя падрадчыкі. Установіцца канкурэнцыя. Зацікавіцца буйны і сярэдні бізнес у гарадах.**

Грамадзяне змогуць самі выбраць, да каго лепш звярнуцца, каб, напрыклад, памяняць кран: да дзяржаўнай структуры або прыватніка.

Напоўніцу сістэма запрацуе не адразу. Трэба вывучыць менеджараў, распрацаваць законы і правілы допуску для падрадчыкаў. На думку Генадзя, на гэта спатрэбіцца гадоў восем.

У краінах Заходняй Еўропы такая практыка дзейнічае ад пачатку 1950-х гадоў.

### Эксперт Віктар Кліменка: вынік пакуль цяжка спрагназаваць

– Пытанне пра агульную ўласнасць паўстала даўно. Якраз з таго часу, калі кватэры пачалі пераходзіць у прыватную ўласнасць грамадзян. Добра, што пра гэта загаварылі, але да канца невядома, як будзе дзейнічаць сістэма.

Напрыклад, як ацэньваць і аплачваць працу кіраўнічага апарата, калі ў адказнасці ў адных вялікі жыллёвы комплекс, а ў іншых – невялікі дом. Грошы на ўтрыманне кіраўнічага апарату бяруцца з паслуг на тэхабслугоўванне. Мы і так аплачваем толькі невялікую частку за яго.

Такім чынам, тое, што агучылі пытанне пра аплату кіравання агульнай маёмасцю, гэта добра. Але што будзе ў рэальнасці, пакуль прадбачыць цяжка, – пракаментаваў дырэктар прыватнага ЖЭСа ў сталіцы **Віктар Кліменка**.

### Маладзечанка: ужо даўно не звяртаюся да дзяржаўных сантэхнікаў

Мы пагутарылі з нашымі чытачамі пра новаўвядзенне ў «жыроўках». Пра тое, што з'явіцца новы радок, людзі не ведалі. Выхавальніца **Валянціна К.** пра новы радок даведалася ад нас. Жанчына прызнаецца, што пакуль не вельмі ўяўляе, як дадзенае новаўвядзенне можа датычыцца яе.

– Канешне, гэта добра, што чалавек зможа сам выбіраць, да каго звярнуцца па нейкую камунальную паслугу. Але ж мы ўжо даўно не звяртаемся ў ЖЭС, калі ёсць нейкія пытанні, напрыклад, па сантэхніцы. Цяпер шмат добрых прыватнікаў. Мне іх праца падабаецца больш: заўсёды хутка і акуратна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.11 руб. | 28.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.0476 | **2.0957** |
| Еўра | 2.2667 | **2.3106** |
| Злоты, 10 | 5.2778 | **5.3534** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2008 | **3.2804** |
| Грыўня, 100 | 8.4690 | **8.7329** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **20.11** | **27.11** |
| Еўра | 2.2400/2.2850 | **2.2870/2.3200** |
| Долар ЗША | 2.0350/2.0540 | **2.0850/2.1100** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 20.11 | 27.11 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **4,29** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,90** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,90 | **4,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,55** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Лісічкі, 1 л | – | **5,00** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **4,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,60** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Гранат, 1 кг | 4,20 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **3,30** |
| Журавіны, 1 л | 5,00 | **5,00** |
| Ківі, 1 кг | 4,30 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 2,90 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Аўтамабіль збіў мужчыну, той загінуў на месцы

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 25 лістапада позна ўвечары ў вёсцы Стайкі.

Кіроўца на грузавіку з паўпрычэпам ехаў у накірунку Ашмянаў па дарозе Барысаў-Ашмяны. На вуліцы Цэнтральнай у Стайках грузавік наехаў на 45-гадовага мясцовага вяскоўца. Мужчына загінуў на месцы здарэння, распавялі ў Вілейскім РАУС. Па папярэдняй інфармацыі, мужчына быў з флікерам.

Вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу.

## Пакуль гаспадар быў на працы, загарэўся яго дом

МЯДЗЕЛ

Пра пажар у вёсцы Пашкаўшчына Княгінінскага сельсавета мядзельскім выратавальнікам паведамілі 26 лістапада каля 14:00. Гарэў драўляны жылы дом.

Па словах інспектара групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага **РАНС Ірыны Карапецян**, дом, які загарэўся, стаяў даволі далёка ад астатніх. Відаць, з-за гэтага пажар заўважылі позна. Калі прыехалі выратавальнікі, дом гарэў адкрытым полымем.

Дом быў не электрыфікаваны, без пажарнага апавяшчальніка. Пажар здарыўся ў час, калі 46-гадовы гаспадар быў на працы.

Агонь знішчыў дах, цалкам выгараў адзін пакой, на кухні – закураныя сцены. Прычыну пажару высвятляюць.

– Дом дакладна загарэўся не з-за электраправодкі, бо электрычнасці не было. І не з-за печкі. Магчыма, гаспадар курыў, неасцярожна скінуў попел і пайшоў на працу, – падсумавала Ірына Карапецян.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ДАІ праводзіць акцыю «Лепшы цюнінг для машын – устаноўка зімовых шын»

Ад 27 лістапада да 4 снежня ДАІ Маладзечна праводзіць рэспубліканскую прафілактычную акцыю «Лепшы цюнінг для машын – устаноўка зімовых шын».

Міліцыянеры выступяць у працоўных калектывах, сярод індывідуальных уладальнікаў машын, у аўташколах. Раскажуць пра абстаноўку з аварыйнасцю ў Маладзечанскім раёне і Мінскай вобласці за бягучы перыяд 2019 года, а таксама пра сезонны ДТЗ.

Таксама праверыць службовыя і спецыяльныя аўтамабілі прадпрыемстваў і арганізацый перад выездам на лінію і па вяртанні ў гараж. Увагу звернуць на тое, ці ёсць зімовыя шыны і ў якім яны стане.

Згодна з пунктам 207 Правілаў дарожнага руху, пры ўдзеле ў дарожным руху ад 1 снежня да 1 сакавіка аўтамабілі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 3,5 тоны ўключна, легкавыя і грузапасажырскія аўтамабілі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай звыш 3,5 тоны, а таксама аўтобусы з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да пяці тон павінны мець зімовыя шыны. Зімовыя шыны ўсталёўваюцца на ўсе колы і павінны адпавядаць патрабаванням часткі 2 п.25 дадатку 4 да правілаў.

Адказнасць за невыкарыстанне зімовых шын прадугледжаная часткай 5 артыкула 18.22 КаАП Рэспублікі Беларусь і цягне папярэджанне або накладанне штрафу да паловы базавай велічыні.

Згодна з правіламі, зімовыя шыны механічных транспартных сродкаў, прызначаныя для эксплуатацыі на абледзянелай або заснежанай дарозе, маркіраваныя знакам у выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі і са сняжынкай унутры яе альбо знакамі «M+S», «MS», «M. S», «M S» ці «All seasons», маюць рэшткавую вышыню малюнка пратэктара не менш за чатыры міліметры.

У выпадку ж, калі на машыне ўстаноўленыя зімовыя шыны, але рэшткавая вышыня малюнка пратэктара складае менш за 4 міліметры, адказнасць наступае па часціцы 3 артыкула 18.12 КоАП Рэспублікі Беларусь (кіраванне транспартным сродкам, які мае няспраўнасці) – цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да адной базавай велічыні.

Калі такое здарэецца паўторна на працягу аднаго года, парушэнні кваліфікуюцца паводле часткі 9 артыкула 18.12 КоАП Рэспублікі Беларусь і пацягнуць штраф ад двух да пяці базавых велічынь.

Для прычэпаў устанаўліваюцца нормы рэшткавай вышыні малюнка пратэктара шын, аналагічныя нормам для шын механічных транспартных сродкаў, у счэпцы з якімі яны ўдзельнічаюць у дарожным руху.

Шына лічыцца непрыдатнай да эксплуатацыі, калі з'явіўся адзін індыкатар зносу, размешчаны па дне канаўкі пратэктара, пры раўнамерным зносе або два індыкатары ў кожным з дзвюх частак – пры нераўнамерным зносе дарожкі.

**Сяргей БАРТОШ, ДАІ Маладзечна.**



На месцы здарэння.

# Каля Краснага ў лоб сутыкнуліся маршрутка і легкавік

МАЛАДЗЕЧНА

**26 лістапада, каля дзесяці раніцы, ля Краснага здарылася аварыя. Маршрутка сутыкнулася з Рэно – лоб у лоб. Сутыкненне адбылося на трасе Р28 Мінск-Маладзечна-Нарач.**

Як расказаў карэспандэнту інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**, на 11:18 было вядома пра восем пацярпелых. Крыху пазней стала вядома пра дзевяць.

Як паведаміла прэс-служба МУС, па папярэдняй інфармацыі кіроўца «Рэно» заснуў за рулём. Ён выехаў на сустрэчную паласу і ўехаў у мікрааўтобус «Мерсэдэс», які ехаў у накірунку Мінска. У мікрааўтобусе было 15 пасажыраў. У «Рэно» – адзін пасажыр. У бальніцу трапілі абодва кіроўцы, шэсць пасажыраў маршруткі і пасажыр «Рэно». Пра тое што ў «Рэно» быў пасажыр, стала вядома пазней. Раней у МУС паведамлялі, што кіроўца ехаў адзін.

Маладзечанскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу ў адносінах да кіроўцы «Рэно» за парушэнне правілаў дарожнага руху, якое пацягнула па неасцярожнасці цяжкае цялеснае пашкоджанне.

Цяпер справай займаецца Упраўленне следчага камітэта па Мінскай вобласці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанца абвінавачваюць у дамаганні да дзяўчынак ад чатырох гадоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Пракуратура Маладзечанскага раёна накіравала ў суд крымінальную справу па абвінавачванні 51-гадовага ўраджэнца Маладзечна, раней судзімага за забойства і замах на згвалтаванне.**

Яго абвінавачваюць у сэксуальным дамаганні да непаўнагадовых і здымцы працэсу на відэакамеру тэлефона, піша mlyn.by.

У крымінальнай справе зафіксавалі дзевяць эпізодаў злачыннай дзейнасці абвінавачанага, якія ён здзейсніў у Маладзечне вясной 2018 і летам 2019 года.

Намеснік пракурора Маладзечанскага раёна **Аляксандр Васюта** расказаў карэспандэнту МЛЫН.BY:

– Згодна з вынікамі папярэдняга расследавання, мужчына 11 сакавіка 2018 года каля 16:40 у стане алкагольнага ап'янення на адной з вуліц прыватнага сектара Маладзечна прымусіў шасцігадовую дзяўчынку раздзецца і здзекаваўся з яе. Абвінавачаны карыстаўся бездапаможным станам дзяўчынкі, якая з-за свайго ўзросту і псіхічнага развіцця не магла разумець характар і значэнне дзеянняў зламысніка і не супраціўлялася.

Па словах Аляксандра Васюты, праз некалькі хвілін мужчына на той жа вуліцы паўторна здзейсніў аналагічныя дзеянні з другой шасцігадовай дзяўчынкай.

Сёлета 8 ліпеня каля 21:20 і 21:25 ахвярамі фігуранта сталі шасцігадовая і васьмігадовая дзяўчынкі, а 9 ліпеня каля 14:30 – тры дзяўчынкі ва ўзросце чатырох, сямі і васьмі гадоў.

Усе свае дзеянні ён здымаў на відэакамеру мабільнага тэлефона.

Паздзекавацца з яшчэ адной, дзевяцігадовай дзяўчынкі, яму перашкодзіў прахожы, якога абвінавачаны спалохаўся і ўцёк.

У 2003 годзе мужчына быў асуджаны за забойства і замах на згвалтаванне. Судзімасць не знятая і не пагашаная.

Цяпер ён чакае судовага працэсу ў камеры следчага ізалятара. Абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

Ураджэнцу Маладзечна ставіцца:

першая частка артыкула 14, трэцяя частка артыкула 167 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (Замах на гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару, учыненыя ў дачыненні да заведама малалетняй);

трэцяя частка артыкула 167 КК (Гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару, учыненыя ў дачыненні да заведама малалетняй паўторна);

трэцяя частка артыкула 343-1 КК (Выкарыстанне заведама малалетняй для вырабу відэафільмаў або сцэн парнаграфічнага зместу).

Абвінавачанаму пагражае да пятнаццаці гадоў пазбаўлення волі.

**Сяргей ЕСМАНОВІЧ, mlyn.by.**

# Ветэран вайны ў Афганістане патрабуе бясплатнае жыллё

МАЛАДЗЕЧНА

**25 лістапада насупраць Маладзечанскага райвыканкама ветэран вайны ў Афганістане Антон Валуевіч абвясціў, што пачынае галадоўку, і стаў з шыльдай.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Антон Валуевіч каля райвыканкама ў панядзелак, 25 лістапада.

Праз шыльду мужчына звярнуўся да кіраўніцтва раёна з патрабаваннем «вярнуць даўгі за вайну». Па меркаванні Валуевіча, дзяржава павінна выдзеліць яму кватэру.

Начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Раіса Казановіч** запрасіла ветэрана да намесніка старшыні **Святланы Валько**, якая курыруе пытанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Разам з імі ў гутарцы ўдзельнічаў начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама **Сяргей Бохан**.

У прысутнасці карэспандэнтаў «Рэгіянальнай газеты» яны спрабавалі патлумачыць сітуацыю. Валуевіч пачаў з крыкаў: «Я тут так і здохну пад выканкамам, слова афіцэра!», у адказ на што яму сказалі: «Вы не афіцэр». Пасля супрацоўнікі выканкама распавялі, што цяпер Валуевіч жыве ў інтэрнаце, але хоча лепшыя жыллёвыя ўмовы, каб перавезці да сябе маці.

– Жыллё яму прапаноўвалі не адзін раз, ён ад усяго адмаўляўся, – распавяла Святлана Валько. – Прапаноўвалі дом, у якім жывуць ветэраны Афганістана, цана для ўсіх адна. Дом заселены, хто крэдыт узяў, хто прыватызаваў, ён адмовіўся. Патрабуе бясплатнае жыллё, толькі льгот гэтых няма. Калі была магчымасць будавацца з дзяржаўнай падтрымкай, ён не скарыстаўся гэтым. Уступіў у жыллёва-будаўнічы кааператыў, але не сплаціў ніводнага ўнёску.

### Чаго хоча ветэран

Валуевіч лічыць, што дзяржава павінна забяспечыць яму жыллё як чалавеку, які аддаў свой воінскі доўг.

Цяпер мужчына жыве ў інтэрнаце.

### «Мне сорамна»

Мы папрасілі патлумачыць сітуацыю старшыню маладзечанскай раённай арганізацыі Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане **Ігара Арабея**.

Ён расказаў, што ў раёне каля 249 воінаў-інтэрнацыяналістаў, 49 з іх уваходзяць у саюз. Валуевіч прыехаў на Маладзечаншчыну са Смаргонскага раёна. Меў званне старшага сяржанта, быў дальнамершчыкам Вайсковай палявой пошты 696 у 201 дывізіі артылерыйскага палка. Служыў ад 3 мая да 10 лістапада 1980 года. Мае трэцюю групу інваліднасці, не звязаную з баявымі дзеяннямі.

Старшыня арганізацыі патлумачыў, што ў 2007 годзе ўнеслі змены ў «Закон Рэспублікі Беларусь аб ветэранах». Змяненні скасавалі шэраг ільгот для воінаў-інтэрнацыяналістаў.

– Прайшоў час, калі кватэры выдавалі бясплатна, – расказвае Арабей. – Усе афганцы раёна, акрамя яго, у той ці іншай ступені скарысталіся сацыяльнай гарантыяй на жыллё – хто субсідыяй, хто льготным крэдытам. Я сам станавіўся ў чаргу, было цяжка выплаціць усю суму, але збіраў.

Ігар Арабей дадаў, што бачыць для Валуевіча два шляхі. Можна стаць у чарзе райвыканкама і чакаць жыллё. Іншы варыянт – атрымаць жыллё ад арганізацыі па рашэнні кіраўніка.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

---

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі б/у да Фіят-Тэмпра, 1993 г.в., 1,6 мона. Т. (8-044) 4703638.

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Форд Мандэа, 1993 г, 1, 8 л., прабег 308 тыс. км., 2100 руб. Тел. (8-029) 6617890*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724.*

• Аўто легкавое, грузавое, бус. Можна аварыйныя. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з рамонтам у Вілейцы. Т. (8-029) 7757392.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Аляхновічах па вул. Маладзёжнай, д.22, 42 кв. м, 2 паверх 5-павярховага дома, 2013 г.п., з еўрарамонтам. Т. (8-029) 7668199.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6405133.*

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г. Аляхновічы па вул. Маладзёжнай, д.10, 54 кв. м, 1 паверх 5-павярховага дома, цалкам гатовая да пражывання. Т. (8-029) 7668199.*

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у в. Каралеўцы Вілейскага раёна, участак 47 сотак. Т. (8-029) 2519948.

• Дом у Маладзечне, 100 кв. м, 0,06 га, 2 газавыя катлы, хлеўчык, гараж, калонка ў двары. Т. (8-044) 5749372.

### КУПЛЮ

• Участак са старым домам у Вілейцы. Т. (8-033) 3359650 МТС, Аляксандр.*

### ЗДАМ

• Пакой і 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

### НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, тэрмінова. Тэл. (8-033) 6451110.

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Анол С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Сталяр-цясляр, лесвіцы, лазня, дамы, матэрыялы. ІП Кароль М.Ф. УНП 690689147. Т. (8-029) 6937096.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова дойная, 5 год. Т. (8-029) 6393772.*

**Іншае**

• Дровы (абрэзкі), сасна, елка, 20-25 см, 10 куб.м, 25 рублёў за 1 куб.м. Дровы яблыні, 10 куб. м, 50 рублёў за 1 куб. м. Т. (8-044) 5770044.*

• Дровы нядорага, дастаўка бясплатна. Т. (8-029) 6106061.

• Дровы. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• Піяніна нямецкае колеру «арэх». Т. (8-029) 6289816.*

• Сена. (8-029) 6870898.*

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2572438.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Ціскі, можна няспраўныя. Т. (8-029) 8794563.*

### ЗГУБЛЕНА

• 18 лістапада каля 14 гадзін у прыбіральні на 5 паверсе ТАЦ «Тройка» быў пакінуты на непрацяглы тэрмін **СМАРТФОН СЯОМІ РЭДМІ НОУТ 4Х У ФІЯЛЕТАВЫМ ЧАХЛЕ.** Таго, хто знайшоў смартфон, **ПЕРАКАНАЎЧА ПРАШУ ВЯРНУЦЬ ЗА ЎЗНАГАРОДУ**. Звяртацца можна ў **РЭДАКЦЫЮ «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ»** альбо па тэлефонах: (8-029) 676 84 20 Вэлком, (8-029) 573 28 47 МТС, Жанна.*



## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Будаўнічыя, аддзелачныя, дэмантажныя работы. Т. (8-044) 7556706,(8-033) 3160206.




Фота забяспечана Юліяй КРУК.

Сям'я Выгоўскіх і работнікі ДАІ каля маладзечанскай радзільні.

# Работнікі ДАІ дапамаглі цяжарнай жанчыне дабрацца да радзільні

МАЛАДЗЕЧНА

**У РАУС Маладзечна патэлефанаваў мужчына і папрасіў аб дапамозе. У аўтамабілі ён вёз у радзільню цяжарную жонку з Радашкавічаў у Маладзечна.**

Калі жанчына зразумела, што ў яе пачаліся роды, муж і жонка **Ганна** і **Аляксей Выгоўскія** не сталі чакаць прыезду «хуткай», а паехалі ў радзільню на сваёй машыне.

Кіроўца звярнуўся да дзяжурнага з просьбай суправадзіць аўтамабіль з парадзіхай ў межах горада. Гэта пасля 18:00. У гадзіну пік на дарогах вялікія заторы, на маршруце да радзільні шмат скрыжаванняў і святлафораў.

Старшы аператыўны дзяжурны маёр міліцыі **Аляксандр Рынкевіч** накіраваў нарад ДПС. Капітаны міліцыі **Ягор Гіль** і **Дзмітры Адамовіч** сустрэлі аўтамабіль з парадзіхай на першым коле на ўездзе ў Маладзечна.

Праз увесь горад экіпаж суправаджаў машыну з уключанымі праблісkавымі маячкамі.

Жанчыну своечасова даставілі ў радзільню, ёй аказалі неабходную дапамогу. Праз некалькі гадзін на лінію 102 паступіў званок ад бацькі. У сям'і Выгоўскіх нарадзілася дачка Лілія.

Як прызналіся інспектары ДПС, такі выпадак за гады службы ў іх упершыню. Павіншаваць бацькоў з нараджэннем дачкі міліцыянеры прыехалі ў радзільню ў дзень выпіскі жанчыны, расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук.**

**Аддзел інфармацыі.**



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |

Юрыст Алена Лысакова, эксперт фонду «Масавыя камунікацыі».

# У крамах можна фатаграфаваць, а інфармацыю трэба здабываць

**Як здабываць інфармацыю, калі іншы бок хацеў бы яе прыхаваць? Пра гэта даведаліся слухачы падчас трэнінгу ў Маладзечне. Навучанне тычылася як працы журналістаў, так і патрэбаў любога грамадзяніна.**

Сустрэча «Юрыдычныя аспекты доступу да інфармацыі, яе праверкі. Праца з крыніцамі» адбылася 23 лістапада. Трэнерам выступіла юрыст **Алена Лысакова**, памочнік адваката, эксперт фонду «Масавыя камунікацыі». Арганізатар мерапрыемства – Маладзечанская філія Беларускай асацыяцыі журналістаў. Расказваем пра асноўныя рэчы, якія даведаліся ўдзельнікі.

### Што гарантуе доступ да інфармацыі

Асноўныя законы, якія рэгулююць доступ да інфармацыі – Канстытуцыя, Закон аб інфармацыі, Закон аб СМІ і Закон аб зваротах грамадзян. Інфармацыя бывае агульнадаступная і тая, распаўсюджанне якой абмежаванае. Прыватнае жыццё, службовая, банкаўская, прафесійная таямніцы, матэрыялы крымінальных і судовых спраў да канца іх вытворчасці.

**Існуе шэраг асаблівасцяў наконт таго, як выкарыстоўваць некаторую інфармацыю. Напрыклад, прызнаную экстрэмісцкай сімволіку нельга выкарыстоўваць нават у крытычным кантэксце. Аднак у гістарычных артыкулах яна можа ілюстраваць артыкулы.**

Выкарыстоўваць інфармацыю ад незарэгістраваных у краіне арганізацый можна толькі з такой пазнакай. Інфармацыю зарэгістраваных за мяжой кампаній магчыма выкарыстоўваць без пазнак.

У тым, што часам органы і арганізацыі не могуць адказаць на тыя ці іншыя запыты, часам ёсць віна саміх заяўнікаў. Напрыклад, пытанне могуць накіраваць не таму органу, у кампетэнцыі якога пытанне. Або складаюць зварот са мноствам падрабязнасцяў ці нават не задаюць пытанняў.

**Каб атрымаць адказ па сутнасці, трэба задаваць вельмі канкрэтныя пытанні і абгрунтоўваць запыт прававымі нормамі.**

Каб атрымаць інфармацыю ад канкрэтнай асобы, варта званіць у прыёмныя гадзіны. Гэта лічыцца вусным зваротам.

### Калі адмаўляюць у інфармацыі

У выпадках, калі іншы бок адмаўляе ў інфармацыі, варта падаваць скаргі. Суд можа прыняць аўдыёзапісы размовы, прычым часам і тыя, што зрабілі без папярэджання. Звычайна канфлікты з дзяржаўнымі органамі на падставе адмовы ад інфармацыі вырашаюць да суда. Але ёсць прэцэдэнты і калі грамадзяне судзіліся з органамі з-за адмовы ў інфармацыі.

**Калі іншы бок адмаўляе ў інфармацыі, ён мусіць патлумачыць прычыну. Некаторыя абмяжоўваюцца словам «немэтазгодна», аднак яно ніяк не можа быць абгрунтаваннем.**

Часам прадстаўнікі дзяржаўных устаноў адмаўляюць у інфармацыі, спасылаючыся на адсутнасць акрэдытацыі. Але такі падыход супярэчыць таму, для чаго акрэдытацыя ўвогуле існуе. Гэта не павінны быць дадатковы спосаб абмежаваць доступ да інфармацыі. Па задуме гэта пазітыўны інструмент, які мусіць дапамагчы арганізатарам прадугледзець месцы на мерапрыемствы. Напрыклад, каб размясціць усіх журналістаў, фатографаў, расставіць камеры.

**Некаторыя забароны не проста абмяжоўваюць, але і парушаюць закон. Забароны фатаграфаваць магазіны, гандлёвыя цэнтры і іншыя грамадскія месцы парушаюць Канстытуцыю.**

Адміністрацыі крамаў спасылаюцца на ўнутраныя дакументы, нібы фота парушае камерцыйную таямніцу. Але таямніцай можна назваць толькі тое, што схавана ад шараговага наведніка.

Юрыст параіла часцей карыстацца адкрытымі базамі дадзеных. Многія звесткі можна адшукаць бясплатна ці за невялікую цану, і не дамагацца кожнага слова ад кампетэнтных органаў.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

**Артыкул 34 Канстытуцыі.** Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджанне поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя. Дзяржаўныя органы, грамадскія аб'яднанні, службовыя асобы абавязаныя даць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі, што закранаюць яго правы і законныя інтарэсы. Карыстанне інфармацыяй можа быць абмежавана заканадаўствам у мэтах абароны гонару, годнасці, асабістага і сямейнага жыцця грамадзян і поўнага ажыццяўлення імі сваіх правоў.

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Ліля назаўжды»



Фота akinsjina-2003.narod.ru.

**У 2002 годзе выйшла драма шведскага рэжысёра Лукаса Мудзісана «Ліля назаўжды». Гэта яго трэці поўнаметражны фільм. У адрозненне ад сваіх папярэдніх стужак, Мудзісан зняў змрочную карціну, якая пранізаная роспаччу і безвыходнасцю.**

### Сюжэт

Лілі 16 гадоў, яна жыве ў маленькім бедным мястэчку. Яе маці з'ехала ў Амерыку з новым палюбоўнікам, і Ліля чакае, калі ёй дашлюць запрашэнне. Не дачакаўшыся ад маці ні лістоў, ні грошай, разумее, што яе кінулі. У Лілі застаецца адзіны сябар – 11-гадовы Валодзя, з якім яны мараць аб лепшым жыцці. І аднойчы ў Лілі з'яўляецца надзея. Яна знаёміцца са сталым сімпатычным хлопцам па імені Андрэй і ўлюбляецца ў яго. Ён угаворвае Лілю паехаць разам з ім у Швецыю.

### Фільм па рэальнай гісторыі

Фільм заснаваны на гісторыі літоўкі Дангуоле Расалайтэ, чые развітальныя тры лісты паслужылі асновай для сцэнарыя. Расалайтэ ў 16 год трапіла ў сэксуальнае рабства ў Швецыі і, не вытрымаўшы, скончыла жыццё самагубствам, саскочыўшы з моста. Яе справа шырока асвятлялася ў шведскай прэсе на пачатку 2000-х.

### Цікавыя факты

1) Аксана Акіньшына і рэжысёр Лукас Мудзісан размаўлялі праз перакладчыка, бо Аксана не размаўляе па-англійску і па-шведску.

2) Грошы, паказаныя ў фільме, – эстонскія (банкноты наміналам у 100 крон).

3) Большасць сцэн знялі ў Палдзіскі, але многія таксама ў Таліне, а дакладней у раёнах Коплі і Ласнамяэ.

4) У арыгінальнай назве фільма «Lilja 4-ever» слова «forever» (назаўсёды) скарочана да напісання «4-ever».

5) Галоўную ролю сыграла Аксана Акіньшына. Гэты быў другі фільм для маладой рускай актрысы. Першую ролю яна выканала ў фільме Сяргея Бадрова-малодшага «Сёстры».

### Узнагароды

Карціну выбралі ў якасці заяўкі ад Швецыі на прэмію «Оскар» за лепшы фільм на замежнай мове. Так як правілы кінапрэміі да 2005 года па гэтай катэгорыі прадугледжвалі фільмы на адной з афіцыйных моў краіны фільма, то «Лілю назаўжды» хацелі зняць з конкурсу. Фільм знялі пераважна на рускай мове, аднак у выніку дапушчаны да разгляду – зрэшты, ён так і не дасягнуў шорт-ліста намінацыі.

Фільм атрымаў дзве намінацыі на European Film Awards у 2002 годзе ў катэгорыях «Лепшы фільм» і «Лепшая актрыса». Узяў «Гран-пры Астурыі», «Спецыяльны прыз журы» і перамог на Міжнародным кінафестывалі ў Хіхоне ў катэгорыі «Лепшая актрыса». Фільм Мудзісана стаў пераможцам Стакгольмскага кінафестывалю. У «Лілі» ёсць кінаўзнагароды Шведскай акадэміі кінематаграфіі ў пяці катэгорыях.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 2 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.35, 18.05, 21.05, 0.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.40** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«МЕГРЭ. НОЧЬ НА ПЕРЕКРЕСТКЕ».**
**9.10** Д/с «Города с историей».
**9.40, 18.10** Т/с **«ПАУК».**
**11.30** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЕ».**
**13.35, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.20** Т/с **«ОТЕЛЬ «ДЕЛЬ ЛУНА».**
**15.45** «Мульт-парад».
**15.55** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20, 23.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«РЕИНКАРНАЦИЯ».**

**ВТОРНИК, 3 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.35, 18.10, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.40** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ОТЧАЯННЫЙ».**
**9.20, 18.15** Т/с **«ПАУК».**
**11.10** Д/с «Города с историей».
**11.40** Х/ф **«ИЛЛЮЗИОНИСТ».**
**13.30, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.20** Т/с **«ОТЕЛЬ «ДЕЛЬ ЛУНА».**
**15.45** «Мульт-парад».
**15.55** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.25, 23.20** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КРЕЙСЕР».**

**СРЕДА, 4 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.35, 18.10, 21.05, 23.55** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.40** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ОДНАЖДЫ В МЕКСИКЕ».**
**9.25, 19.05** Т/с **«ПАУК».**
**11.10** Д/с «Города с историей».
**11.35** Х/ф **«КРЕЙСЕР».**
**13.45, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.35** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.45** «Мульт-парад».
**15.55** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.25, 23.10** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Законы привлекательности».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЛИНКОЛЬН ДЛЯ АДВОКАТА».**

**ЧЕТВЕРГ, 5 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«УЛЬТИМАТУМ БОРНА».**
**9.35, 19.05** Т/с **«ПАУК».**
**10.30** «Законы привлекательности».
**11.30** Д/с «Города с историей».
**12.00** Х/ф **«ЛИНКОЛЬН ДЛЯ АДВОКАТА».**
**14.00, 20.05** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.10** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.40, 23.25** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.25** «Готовь как шеф».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС».**

**ПЯТНИЦА, 6 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.40, 18.10, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.45** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ БОРНА».**
**9.50, 18.15** Т/с **«ПАУК».**
**10.45** «Готовь как шеф».
**11.00** Д/ф.
**11.30** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС».**
**13.50, 20.05** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.40** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.50** «Мульт-парад».
**15.55** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.25, 0.40** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ОНО».**
**23.10** Х/ф **«ОЦЕПЕНЕВШИЕ ОТ СТРАХА».**

**СУББОТА, 7 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 14.30, 19.00, 21.15, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «В поисках йети».
**8.35** Х/ф **«МАРЛИ И Я».**
**10.30** «Признайся, что вкусно». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «Ы» И ДРУГИЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШУРИКА».**
**12.30** Х/ф **«ОНО».**
**14.35** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Хрусталик и пингвин».
**15.50** Х/ф **«ДЕСЯТЬ ПРИЧИН МОЕЙ НЕНАВИСТИ».**
**17.30** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Законы привлекательности».
**19.05** Х/ф **«НЕВЫНОСИМАЯ ЖЕСТОКОСТЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** «Жестокие мужские игры» Триллер «Выстрел в пустоту».
**23.20** Х/ф **«ПЕКЛО».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 8 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.35, 18.55, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Хрусталик и пингвин».
**8.25** Х/ф **«ЭЛВИН И БУРУНДУКИ».**
**9.50** «Утрямдия».
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.30** «Законы привлекательности».
**11.15** Т/с **«ЗАБЫТЫЙ».**
**14.45** Д/ф «ТАЙНА ВОДЫ».
**15.40** «Смотрим всей семьей». «Еще одна история о Золушке».
**17.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.00** Х/ф **«КАНДАГАР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ШПИОНКА».**
**23.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 2 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**8.20** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**10.15** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**13.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**15.20** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**17.10** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая радзіма.
**20.15** Х/ф **«БАБЛО».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 3 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**
**13.00** Х/ф **«БРАТЬЯ СИСТЕРС».**
**15.10** Х/ф **«НЕ ГРОЗИ ЮЖНОМУ ЦЕНТРАЛУ, ПОПИВАЯ СОК У СЕБЯ В КВАРТАЛЕ».**
**16.30** Х/ф **«БАРМЕН».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 4 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**10.00** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**13.00** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО».**
**16.10** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**18.40** По правилам таможни.
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 5 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«МЕРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**10.00** Х/ф **«СЕМЬЯ ПО-БЫСТРОМУ».**
**12.00** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА».**
**15.00** Рядом со звездой.
**19.15, 22.15** Мажорный лад.
**20.15** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПО НЕВОЛЕ».**

**ПЯТНИЦА, 6 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая радзіма.
**8.15** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И МОРСКОЙ ЦАРЬ».**
**9.40** По правилам таможни.
**11.40** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО».**
**13.55** Х/ф **«ШЕФ».**
**15.35** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**16.50** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.20** Мнения и факты.
**20.20** Х/ф **«НЕВАЛЯШКА».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 7 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30** Мая Радзіма.
**13.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**14.50** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**16.25, 21.10** Новости БЖД.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.30** По правилам таможни.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 8 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.10** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**18.50** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**20.20** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**21.30** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**

## Беларусь 1

**6.50** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на праздник Непорочного зачатия Девы Марии.

**7.00** Х/ф **«КОВАРНЫЕ ИГРЫ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол! «.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Кулинарная дипломатия.

**13.10** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НА ЧЕТЫРЕХ КОЛЕСАХ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.10** Х/ф **«ЛАБИРИНТЫ СУДЬБЫ».**

**19.45** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«МЕСТЬ КАК ЛЕКАРСТВО».**

## Беларусь 2

**7.00** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**7.55** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.10, 18.50** Телебарометр.

**9.15** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.

**10.35** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**11.30** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.20** «Подиум». Фэшн-шоу.

**13.20** Фантастическая сага «Голодные игры».

**15.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.20** Биатлон. Этап Кубка мира. Эстафета. Женщины.

**19.20** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.20** «Суперheна». Реалити-шоу.

**22.15** Х/ф **«ВОЙНА БОГОВ: БЕССМЕРТНЫЕ».**

**0.05** «Третий лишний». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 12.15, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Незнаёмы наследнік». Мастацкі фільм.

**9.50** «Наперад у мінулае».

**10.15** «Беларуская кухня». Цатні.

**10.45** «Свaімі словамі». Тэлевікторына.

**11.25** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.35** «Стацкі саветнік». Мастацкі фільм [СТ].

**16.10** «Дзесяць фатаграфій». Іосіф Кабзон.

**16.50** «Юнга Паўночнага флоту». Мастацкі фільм.

**18.15** «Хуткасць». Мастацкі фільм.

**19.50** «Фарбы памяці. Пётр Данелія».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Не можа быць!» Мастацкі фільм [СТ].

**22.40** «Тэатр у дэталях». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь «Саламея».

**23.05** XIV Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. «Візуалізацыя. Музыка і гісторыя». Міжнародны камерны аркестр «EAST-WEST CHAMBER ORCHESTRA». Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – Расціслаў Крымер. Летыцыя Марэна (скрыпка). (Іспанія).

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«Особенности национальной охоты в зимний период».**

**11.25** «Видели видео?».

**13.30** «Алла Пугачёва. И это всё о ней…».

**16.20** Х/ф **«Жизнь после жизни».**

**18.30** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** Вячеслав Никонов и Дмитрий Саймс в программе «Большая игра».

**23.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.30** «Что? Где? Когда?» Зимняя серия игр.

**0.45** К 75- летию Михаила Пиотровского. Премьера. «Хранитель».

## СТВ

**6.05** «Пища богов».

**7.45** Документальный проект.

**9.20** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05, 22.45** Документальный спецпроект.

**12.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ИНКАССАТОРЫ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.35** «Засекреченные списки».

**22.15** «Неделя спорта».

**23.35** Т/с **«ОХОТА НА ГАУЛЯЙТЕРА».**

## Мир

**6.00** «Беларусь сегодня».

**6.30** Д/ф «20 ЛЕТ СОЮЗНОМУ ГОСУДАРСТВУ».

**6.55** «Знаем русский».

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.50** «Игра в правду».

**11.50, 16.20** Т/с **«СЕРДЦА ТРЕХ».**

**17.30, 19.30** Х/ф **«Д'АРТАНЬЯН И ТРИ МУШКЕТЕРА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**1.00** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Тело человека».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** Дело жизни. Возрождение.

**8.40** «Однажды...».

**9.20** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** «Секрет на миллион». Анна Семенович.Продолжение.

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** «Россия рулит!».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ВОЛШЕБНОЕ СЛОВО».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сам себе режиссер».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** Х/ф **«ОПАСНЫЙ ВОЗРАСТ».**

**15.45** «Аншлаг и Компания».

**18.25** ПРЕМЬЕРА. Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** ПРЕМЬЕРА. «В людях».

**21.45** Х/ф **«ДОМОПРАВИТЕЛЬ».**

**23.15** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.55** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 12.05** Белфегор – призрак Лувра. **8.00** Любовь и другие лекарства. **10.05** Санктум. **13.45** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **15.50** Испанский-английский. **18.15** Дети шпионов 2: Остров несбывшихся надежд. **20.10** Дети шпионов 3: Игра окончена. **21.35** 47 ронинов. **23.40** Красавица для чудовища. **2.05** Магия лунного света. **3.55** Последний киногерой.

### TV1000 ACTION

**6.40** Чистильщик. **8.15** Овердрайв. **9.55** Падение Лондона. **11.35** Газетчик. **13.30** Переговорщик. **16.00** Эверли. **17.35** Реальные парни. **19.10** РЭД. **21.10** РЭД 2. **23.10** Убийца внутри меня. **1.05** Человек-мотылёк. **3.10** Арсенал. **5.10** Солт.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.05** Бармен. **8.05** Любовь-морковь 3. **10.00** Чудесный колокольчик. **10.25, 11.40** Рок-н-ролл для принцесс. **13.10** Отрыв. **14.45** Напарник. **16.20** Викинг. **18.50** Любовь с ограничениями. **20.45, 5.30** Медвежий поцелуй. **22.30** На крючке! **0.05** Трудно быть Мачо. **2.00** Х/ф**. 3.40** Любовь-морковь.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.45, 11.45** Т/с **«ОБМАНИ МЕНЯ». 12.45, 3.45** Х/ф **«БУРЯ В АРКТИКЕ». 14.30** Х/ф **«АКАДЕМИЯ ВАМПИРОВ». 16.30** Х/ф **«ОРУДИЯ СМЕРТИ: ГОРОД КОСТЕЙ». 19.00** Х/ф **«ВИНЧЕСТЕР: ДОМ, КОТОРЫЙ ПОСТРОИЛИ ПРИЗРАКИ». 21.00** Х/ф **«ДЕВЯТЫЕ ВРАТА». 23.45** Х/ф **«БАГРОВЫЙ ПИК». 2.00** Х/ф **«КЛЮЧ ОТ ВСЕХ ДВЕРЕЙ». 5.15, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 6». 12.00, 13.00** Т/с **«Я-ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. СТАРЫЕ СЧЕТЫ». 14.00, 15.00** Т/с **«НОЧНЫЕ ЛАСТОЧКИ». 20.00, 21.00** Предлагаемые обстоятельства. Белые лилии. **22.00, 23.00** Т/с **«УХОДЯЩАЯ НАТУРА». 4.00, 5.00** Т/с **«ТАТЬЯНИНА НОЧЬ». 6.00, 7.00** Т/с **«ДЕТИ ВАНЮХИНА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.40** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ». 3.05** Х/ф **«ПЯТНИЦА». 4.40** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ». 6.20** Х/ф **«КАК ЗАНИМАТЬСЯ ЛЮБОВЬЮ ПО-АНГЛИЙСКИ». 8.15** Х/ф **«ВДРЕБЕЗГИ». 10.05** Х/ф **«ОПАСНЫЙ БИЗНЕС». 12.10** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА». 14.25** Х/ф **«SUPERНЯНЬ». 16.00** Х/ф **«SUPERНЯНЬ 2». 17.45** «Национальная безопасность». **19.30** Х/ф **«ВЫКРУТАСЫ». 21.20** Х/ф **«ВСЁ И СРАЗУ». 23.15** Х/ф **«ЛЮБОВНЫЙ МЕНЕДЖМЕНТ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40** Барс и Лялька. **1.40, 2.35, 4.00, 4.50, 5.45, 6.40, 7.35, 8.30, 9.25, 10.20, 11.15, 12.10, 13.05** Тринадцатый. **14.00, 14.55, 15.50, 16.55, 17.45, 18.45, 19.40, 20.40** Чисто английские убийства. **21.35, 22.55** Бесы.

### ВТВ

**6.00, 8.20, 9.05, 10.45, 12.25, 14.20, 16.15, 18.05, 19.40, 21.25, 23.45** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.25** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.10** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.55** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.20** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.50** Шоу «САРАНХЭ». **11.50** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.30** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.25** Х/ф **«УСКОРЕНИЕ». 16.20** Х/ф **«МАХНИ КРЫЛОМ». 18.10** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **19.45** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.30** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 23.50** Т/с **«МЕТОД ЛАВРОВОЙ». 1.45** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.15** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Конькобежный спорт. Этап кубка мира. Нур-Султан. **9.05** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Эстафета. Мужчины. **10.35** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Манчестер Юнайтед. **12.30** Плавание. Чемпионат Европы на короткой воде. Утренняя сессия. **15.30** Тренировочный день. **16.00** Пит-стоп. **16.30** Овертайм. КХЛ. **17.00** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск – ЦСКА (Москва). В перерывах Овертайм. КХЛ. **19.45** Вот это спорт! **19.55** Плавание. Чемпионат Европы на короткой воде. Вечерняя сессия. **22.15** Итоги недели. **23.00** Футбол. Чемпионат Португалии. Белененсиш – Порту. В перерыве Спорт-микс.

### EUROSPORT

**0.00** Конный спорт. Longines Masters. Париж. **1.35, 7.30** Горные лыжи. Кубок мира. Бивер Крик. Мужчины. Скоростной спуск. **2.20** Горные лыжи. Кубок мира. Лейк Луис. Женщины. Скоростной спуск. **3.30, 8.30** Снукер. UK Championship. 1/2 финала. **5.00** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Мужчины. Эстафета. **6.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Лиллехаммер. Мужчины. Скиатлон. **7.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Лиллехаммер. Женщины. Скиатлон. **10.30** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Лиллехаммер. Команды. **11.05** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Лиллехаммер. HS 140. **12.15** Лыжные гонки. Кубок мира. Лиллехаммер. Женщины. Эстафета. **13.30** Лыжные гонки. Кубок мира. Лиллехаммер. Мужчины. Эстафета. **15.00** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Лиллехаммер. Гонка преследования. **16.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Нижний Тагил. HS 134. Квалификация. **17.20** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Нижний Тагил. HS 134. **19.15** Горные лыжи. Кубок мира. Бивер Крик. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **21.00** Горные лыжи. Кубок мира. Лейк Луис. Женщины. Супергигант. **22.30** Горные лыжи. Кубок мира. Бивер Крик. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 6.40, 14.05, 15.05, 17.30, 18.35, 2.10, 3.20, 4.05** Все включено. **6.15, 12.20, 21.00, 0.20** Возвращение легенды. **6.55, 17.45** Металлоломщики. **7.40, 10.00, 13.05, 16.55, 19.50, 0.45, 2.25, 4.50** Итоговые новости. **7.55** Автодрайв 2019. **8.25, 18.50** Тест на «Драйве». **9.25, 10.20, 3.30** Байки про байки. **10.55** Тебе водить! **11.25, 11.45, 20.05, 20.25, 23.25, 23.45** Работяги. **12.00, 20.40, 0.00** Хорошо забытое. **12.50, 21.25, 1.05, 1.20, 4.35** Электродрайв. **13.25, 1.35** Сити-тестер. **13.55, 14.55, 2.00, 3.05** Куда уходит детство. **14.25, 2.40** Комплектация. **15.25, 19.20** Норильск – Диксон. Есть рекорд! **15.55, 21.45** Резьба по стали. **16.25** Советы для каждого. **17.10, 23.00, 5.45** Мото-тест. **22.15** Вечер с Пикуленко. **23.15** Обновление. **4.20** Самообслуживание. **5.05** Своими руками. **5.30** Проверка на дороге.

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.20, 7.10, 8.05, 8.55** Речные чудовища. **9.45, 10.40, 11.30, 12.20, 13.05, 13.55, 14.45, 15.35, 16.25, 17.15** Выживание в лесу. **18.05, 18.55, 19.40, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50, 23.40** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.10** Поисковая команда в Австралии. **1.55, 2.45, 3.35, 4.25, 5.15** Ковбои ледяных вод.

### HISTORY

**6.10** Тайны Парижа. **6.35** Мифы и чудовища. **7.25** Швы времени. **8.00** Невероятные изобретения. **8.30, 9.25** Тайны британских замков. **10.15, 11.10, 12.00, 12.55** Шесть королев Генриха VIII. **13.50, 15.00, 16.15** Наполеон. **17.25, 18.20, 19.15, 20.10, 21.05** Частная жизнь коронованных особ. **22.00** 5000 лет истории Нила. **23.00** Животные на войне. **23.55, 0.50** Загадочные убийства: средневековье. **1.40, 2.15** Даты, вошедшие в историю. **2.50, 3.45** Тени средневековья. **4.35** Музейные тайны. **5.20** Мифические существа.

### NATURE

**6.00, 6.25** Постыдные проблемы питомцев. **6.50** Мир природы – очковые медведи. **7.45, 8.45** Дельфины – шпион в стае. **9.40, 10.40, 11.40** Пингвины – шпион в стае. **12.35** Суперветеринар. **13.25, 13.50** Уличный ветеринар. **14.15** Ветеринар из глубинки. **15.00** Тайная жизнь слонов. **16.00** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **16.55** Великие миграции в природе. **17.50** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **18.45** Удивительное семейство псовых. **19.40** Огромные звери: последние из великанов. **20.30, 21.25, 22.20** Анатомия крупнейших животных. **23.25** Страна чудесных ископаемых – тайные сокровища природы. **0.20, 1.20** Эволюция в действии. **2.15, 2.40, 3.05, 3.30, 3.55, 4.20, 4.45, 5.10, 5.35** Природа в кадре.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**5.55, 5.35** Игры разума. **6.20, 5.10** Делай ставки и взрывай. **6.45** Национальные парки Америки. **7.30, 8.15** Золото в холодной воде. **9.00** Настоящий суперкар. **9.45** Китайское видение будущего. **10.30** Ледяная дорога. **11.20, 12.05** Настоящий гений со Стивеном Хокингом. **12.50, 13.35** Экстремальный экспресс. **14.20** Международный аэропорт Дубай. **15.05, 15.55** Расследования авиакатастроф. **16.40, 17.25** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **18.10, 22.50, 3.25** Строительство тоннеля. **19.00, 22.05, 2.40** Европа с высоты птичьего полета. **19.45** Службы безопасности портов: Гамбург. **20.30** Умные города мира: Амстердам. **21.15** Мегаполисы. **23.40, 0.25** Осушить океан: глубокое погружение. **1.10, 1.55** Авто – SOS. **4.20** Крупнейший в мире ремонт.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 21.20** Охота и рыбалка в. **6.25, 20.45, 23.20** Рыбалка 360. **6.55, 22.20** Охота в Приволжье. **7.25, 12.10, 17.50, 0.25** Рыбак-авантюрист. **8.10, 2.20** На рыбалку вместе с папой. **8.40** Научи меня рыбачить. **9.10, 3.15** Нахлыст. **9.40, 3.45** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **10.10** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **10.40** Пофестивалим! **11.10, 17.20, 1.25, 5.10** Подводная охота. **11.40, 18.45, 1.50, 5.35** По рекам России. **12.55** Горная охота на пиренейскую серну. **13.20, 21.50** Камский спиннинг. **13.50, 19.15** На рыбалку с охотой. **14.25, 15.25, 16.20** Охота в Беларуси. **14.55, 15.50, 16.50** Беларусь: в поисках хорошего клева. **19.50** Люди дикого севера. **22.50** Рыбалка сегодня XL. **23.50** Сезон охоты. **1.10** Дело вкуса. **2.45** По Якутии с Александром Борисовым. **4.15** Охоты и охотники. **4.30** Охотничьи собаки. **4.55** Какая дичь!

### УСАДЬБА

**6.00, 14.05, 18.05, 22.20, 2.15** Дома на деревьях. **6.45, 18.50, 23.05, 2.55** Кухня народов СССР. **7.00, 10.55, 14.50, 19.05, 23.25, 3.10** Да здравствует мыло душистое! **7.15, 11.15, 15.10, 19.25, 23.40, 3.25** Беспокойное хозяйство. **7.45, 15.40, 19.55, 0.05, 3.50** Профотбор. **8.15, 12.15, 16.10, 20.25, 0.35, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.30, 0.50** Чужеземцы. **8.50, 12.50, 16.45, 21.00, 1.05, 4.50** Высший сорт. **9.05** Огород круглый год. **9.20** Огород круглый год. **9.40, 13.35, 17.35, 21.50, 1.45, 5.35** Секреты стиля. **10.10** Деревянных дел мастер. **11.45** Огород круглый год. Лайфхаки. **13.05, 1.20** Побег из города. **16.25, 20.40, 4.35** Дачные хитрости. **17.00, 21.15, 5.05** Дачных дел мастер.

# «А якое раздолле было для дзяцей!» Як у Дубіне нарыхтоўвалі торф

ВАЛОЖЫН

**Я нарадзілася ў вёсцы Дубіна, закончыла там васьмігадовую школу. Цяпер жыву ў Мінску. Але ў Дубіне жыў да гэтага года бацька, а ў Палачанах – брат Аляксандр. Таму на Валожыншчыне і Маладзечаншчыне часты госць.**



Дубінцы каля матавоза.

Мясціны вакол вёскі змяніліся, вось і захацела расказаць, як было ў маё юнацтва, каб моладзь лепш ведала гісторыю сваёй вёскі.

### Торф – неад'емная частка жыцця вяскоўца

У той час у Дубіне ішла нарыхтоўка торфу, а для цяперашніх падлеткаў – гэта навіна. Пачыналася пасля таго, як вяскоўцы ўпраўляліся з агародам і заканчвалі садзіць бульбу. Цяперашняя моладзь запытае: «А навошта?». Торфам дубінцы палілі печы ў хатах. На гэта былі тры прычыны. Па-першае, было блізка балота. Па-другое, бераглі лес. Па-трэцяе, торф лепш трымаў цяпло. Былі недахопы – гэта тое, што хаты былі закураныя. Людзі часцей мылі стол і працiралі сцены.

**У часы нарыхтоўкі балота было падобнае да пчалінага вулля, усё гудзела. Хтосьці пра нешта апавядаў, нехта спяваў, а іншыя сварыліся ці заліваліся смехам.**

Асабліва гучна было ў поўдзень, людзі бераглі час і не хадзілі дамоў, а палудневалі на балоце. Тады жанчыны заводзілі песні. Усё вакол замірала, нават стракозы перастаўалі стракатаць. А конікі, здавалася, узбіраліся на верасок, нахіляліся да яго долу, уважліва слухалі дубінскія песні.

На балоце можна было пачуць аб усім. Калі навастрыць вушы, то можна даведацца не толькі пра вясковыя навіны, але і пра тое, што адбываецца ва ўсім свеце.

### Пачатак нарыхтоўкі

Кожны агароджваў сабе ўчастак, на якім размяшчалася месца для капання торфу і палянка, на якой ён сушыўся. На ўчастку, дзе збіраліся капаць, знімалі ўсю зямлю да ўшчыльненага тарфянога пласта. На глыбіню трыццаці сантыметраў капалі разаком некалькі радоў торфу ў першым пласце. Потым апускаліся ніжэй і капалі другі пласт. І вось так, адзін за другім, да самага глею.

Па атрыманых прыступках рэзчык падымаўся наверх. Чым ніжэй ён спускаўся, тым усе больш вільготнымі станавіліся тарфяныя пласты. Апошнія з іх амаль цалкам былі ў вадзе, а яе перад капаннем трэба вычарпаць.

Выразаныя цаглінкі падымалі наверх. Жонка і дзеці падхаплівалі кавалачкі, клалі іх на паляне, каб яны не краналіся адзін аднаго. Торф прасыхаў, яго пераварочвалі, складвалі ў домікі, затым у кучкі і штабялі. Штабялі пакрывалі цыратай, бо не было часу звозіць дамоў – пачынаўся сенакос. Торф звозілі ў хлявы тады, калі ён нагадваў буханку хлеба з падсмажанымі скарыначкамі.

### Як прыдумалі разак

Аднойчы бацька сказаў, што разак для нарыхтоўкі торфу прыдумаў дзед, калі капаў студню. Тады падумала, што дзед, напэўна, прывёз гэту прыладу ў вёску з Усходу, калі ездзіў здабываць соль. Калі вучылася ў педвучылішчы, успомніла аб гэтым і запыталася пра разак у дзяўчынак з Палесся. Яны на мяне глядзелі вялікімі вачыма і не разумелі, пра які разак ідзе размова. Аказалася, што яны капаюць торф лапатай. Так мы і разышліся: яны не зразумелі мой разак, а я – іх лапату.

Вось цяпер, калі з'явіўся інтэрнэт, я задала гэта пытанне яму, але мой разак ён таксама не зразумеў. А на маё пытанне аб прыладах для нарыхтоўкі торфу выдаў шэраг вельмі нязграбных, у параўнанні з нашым разаком, прыстасаванняў.

Цяпер я ўпэўнена, што гэта прылада сапраўды нарадзілася ў Дубіне. Няважна, хто яе з дубінцоў прыдумаў, а можа, і калектыўна: адзін прапанаваў, другі ўдасканаліў, а ў выніку атрымалася эстэтычнае прыстасаванне.

### Дабывалі торф не толькі рукамі

На дубінскім балоце торф здабывалі механізаваным спосабам. У пасёлку Беразінскае ў 1959 годзе пабудавалі торфабрыкетны завод, там працавала многа дубінцоў.

За апошнія дваццаць гадоў змяніўся ландшафт вакол Дубіны. На тым месцы, дзе цяпер разросся хмызняк, у час майго дзяцінства было асушанае балота. Участак быў парэзаны канавамі, па якіх цякла вада. Плошчы, якія ляжалі паміж канаў, называлі картамі.

На трактарах з прычэпленымі да іх прыстасаваннямі ўзрыхлялі карты, а пры дапамозе торфаўборачных машын збіралі тарфяную крошку і згружалі ў караваны. Зверху яе варушылі і раўнялі, каб хутчэй прасыхалі. Калі тарфяная крошка ў караванах высыхала, яе загружалі ў вагоны і па вузкакалейцы адвозілі на завод, з якой нашы продкі рабілі брыкет.

### «Матрыса», завязіце мяне ў Дубіну

Ад Узбалаці да Беразінскага праклалі вузкакалейку, па якой хадзілі матавозы як грузавыя, так і тыя, што перавозілі людзей. Іх называлі пасажыркамі. Хадзіў маленькі вагончык, які нагадваў электрычку ў мініяцюры. Дубінцы далі яму назву «Матрыса». Аднойчы да Карзюкоў ехаў брат з сям'ёй з Масквы. Калі ён прыехаў з Маладзечна ў Беразінскае, то спадарожнікі падказалі, што па вузкакалейцы можна даехаць да Дубіны.

Масквіч пайшоў да дыспетчара і папрасіў яго давезці да сястры. Той не раздумваючы адказаў, што вось зараз прыйдзе «Матрыса» і ўсе паедуць у Дубіну. Госць чакаў, пакуль да дыспетчара не падышла зграбная жанчынка, якая працавала дзяжурнай. Масквіч віхрам ускочыў з месца, бо баяўся прапусціць, падбег да гэтай кабеты і запытаў: «Гэта вы, Матрыса, завязіце мяне ў Дубіну». Пачуўшы гэта, усе развесяліліся. Рагатала з намі і кабета, рагатаў і ён сам. Дубінцы – не толькі працавітыя, але і жартаўлівыя.

### Шчаслівае дзяцінства дубінцоў

А якое раздолле было для дзяцей. На кардонках ці на кавалачках фанеры з'язджалі з тарфяных караванаў, як са снежных горак, а потым, усе мурзатыя ад торфу, з вялікім задавальненнем бегалі па канавах і лавілі рыбак. У канавах вадзіліся ваўчкі і келбачкі. Дзетвара з дапамогай кошыка альбо рукамі іх лавіла. Ваўчкі калолі рукі, а келбачкі былі слізкія. Шмат смяяліся, калі спрабавалі схапіць гэту невялічкую рыбку, а яна як вуж выкручвалася, магла падскочыць ды хвастом папацаваць цябе у нос.

На тым месцы, дзе цяпер разлівы, быў участак – Багер. Там з крана цякла газіраваная вада, а дзетвара бегала яе піць. Бацькі вярталіся з работы і неслі за плячыма па мяшку з грыбамі: беленькія на тоўстай ножцы, нагадвалі баравічкі. Калі ў хаце былі грыбочкі з балота, то на лясныя ты не звяртаў увагі. Цяпер, ва ўзросце, часта смуткуеш аб тых добрых гадзінах дзяцінства і вельмі хочацца папіць газіроўкі і з'есці салодкіх грыбочкаў.

**Марыя МУЧЫНСКАЯ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

**29 ЛІСТАПАДА**

**1939.** Вярхоўны Савет СССР выдаў пастанову аб наданні савецкага грамадзянства былым грамадзянам Польшчы.

**30 ЛІСТАПАДА**

**1874.** Нарадзіўся **Уінстан Чэрчыль**, брытанскі прэм'ер-міністр і пісьменнік.

**1899.** Нарадзіўся **Міхась Лынькоў**, народны пісьменнік Беларусі.



**1993.** Урочышчу Курапаты ў Мінску нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці 1-й катэгорыі.

**1 СНЕЖНЯ**

**1887.** Артур Конан Дойл апублікаваў аповесць «Эцюд у барвовых адценнях», у якім упершыню з'явілася постаць Шэрлака Холмса.

**1920.** Ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні створаны Беларускі студэнцкі саюз.

**2 СНЕЖНЯ**

**1936.** Польскімі ўладамі забароненая дзейнасць Таварыства беларускай школы.

**3 СНЕЖНЯ**

**1918.** Рада і Урад беларускай Народнай Рэспублікі пакідаюць Мінск, выехаўшы ў Гродна.

**4 СНЕЖНЯ**

**1874.** У Куранцы нарадзіўся **Леў Альпяровіч**, беларускі жывапісец. Памёр у 1913 годзе ў Мінску. Некалькі прац мастака захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.



**1939.** Утвораныя Вілейская, Баранавіцкая, Беластоцкая, Брэсцкая і Пінская вобласці БССР.

**1946.** На Маскоўскім заводзе малалітражных аўтамабіляў (МЗМА) пачатая серыйная вытворчасць аўтамабіляў маркі «Масквіч».

**5 СНЕЖНЯ**

**1876.** Нарадзіўся **Юзаф Пілсудскі**, м. Зулаў Свянцянскага павета, польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Быў удумлівы і маўклівы, як сапраўдны творца

## Юрась Церабун – пра Іосіфа Сушко

МАЛАДЗЕЧНА

**Даўнейшы здымак нагадаў гады вучобы ў Маладзечанскім музвучылішчы, якое адкрылі ў 1958 годзе. Амаль усе гэтыя навучэнцы сталі вядомымі людзьмі ў харавым мастацтве. Сярод іх – заслужаны работнік культуры, ганаровы грамадзянін Рэспублікі Беларусь, ганаровы грамадзянін Маладзечанскага раёна Іосіф Сушко (1928-2016).**



На фотаздымку з архіва Юрася Церабуна злева направа: харавыя дырыжоры Анатоль Матвіеўскі, Генадзь Дубраўка, Іосіф Сушко, Міхась Бохан, Арэст Далжонак, Уладзімір Ваўчок, Браніслаў Гембіцкі, Яўген Вахмялін, Юры Шутовіч, Аляксандр Пыжык, Віктар Шаронаў.

### Мы любілі хор

У 1959 годзе Іосіф Сушко паступіў адразу на другі курс дырыжорска-харавога аддзялення. На здымку – тыя, з кім давялося вучыцца і мне, паступіўшы на цымбалы ў 1961 годзе.

Разам мы спявалі ў хоры пад кіраўніцтвам **Мікалая Елісеенкава**. Не хапала мужчынскіх галасоў, асабліва тэнараў. Таму народнікі, чые галасы падыходзілі, павінны былі наведваць заняткі. Мы любілі хор. Бо спяваць у прафесійным хоры – вялікая асалода. З цеплынёй успамінаю, як мы спявалі акапэльна твор Вісарыёна Шабаліна «Зімовая дарога» на словы Аляксандра Пушкіна. Высокая паэзія ў спалучэнні з харавымі спевамі спрыяла таму, каб мы палюбілі харавое мастацтва на ўсё жыццё.

Вось чаму сёння, калі мне выпадае нейкая хвіліна для роздуму, слухаю творы з цыкла «Восеньскія пейзажы», альбо «Мікракосмас» эстонскага кампазітара **Вельа Торміса** (1930-2017), народнага артыста СССР, музычнага этнографа і педагога. Музыка складаная для ўспрымання, але вельмі вобразная.

### Іосіф Сушко – педагог, музыкант, кампазітар

14 год, ад 1963-га, Іосіф Сушко выкладаў у нашым вучылішчы харавыя дысцыпліны. Іосіф Фаміч быў маім педагогам па дырыжыраванні і чытанні партытур, спачатку харавых, а потым аркестравых. На практычных занятках знаёміліся з асновамі інструментоўкі для розных ансамбляў і перакладу для вакальных груп.

Іосіф Фаміч меў талент кампазітара-меладыста. У 1966 годзе мне з групай Смаргонскага народнага ансамбля песні і танца імя Агінскага давялося выступаць у ГДР. У рэпертуары была песня Іосіфа Сушко на вершы Ніны Тарас «Што ж ты мне сэрца параніў». Яе заўсёды прымалі вельмі добра. Слухачы не ведалі ні слоў, ні зместу, але мелодыя кранала іх сэрцы.

Іосіф Сушко добра валодаў гармонікам і баянам. Я яшчэ са свайго смаргонскага юнацтва запомніў, як са сцэны абʼяўлялі: «Акампаніруе Іосіф Сушко». Гэта была славутасць Маладзечанскай вобласці і Беларусі на ўсіх дэкадах і аглядах мастацкай самадзейнасці. Яго баян гучаў пасаблівому, уласцівай толькі яму манерай. Яго пераборамі можна было захапляцца і штораз атрымліваць для сябе нешта новае.

### У ГУЛАГу акампаніраваў Русланавай

Будучы рэпрэсіраваным і асуджаным на дзесяць год зняволення, Сушко адбываў пакаранне ў ГУЛАГу. Там акампаніраваў вядомай спявачцы **Лідзіі Русланавай**, асуджанай на такі ж тэрмін. Для зняволеных Русланава спявала, а вось лагернаму начальству адмаўляла.

– Трэба было вам са Сталіным мяне ў Маскве слухаць. Птушка ў клетцы не спявае, – казала яна.

Гэта была смелая жанчына. А пакаралі яе за нейкую выкананую прыпеўку.

Потым Іосіф Сушко казаў: «Страшны не лагер. Іншым ён быць не мог. Страшна было іншае. Там было шмат невінаватых». У 1962 годзе яго цалкам рэабілітавалі.

### Ведаў, як павінна быць на сцэне

Ад 1960 года Іосіф Сушко нязменна кіраваў заслужаным аматарскім калектывам Рэспублікі Беларусь, народным ансамблем песні і танца «Спадчына». Кіраўнік калектыву ніколі не жартаваў, быў заўсёды ўдумлівы, часцей маўклівы, як сапраўдны творца. За кулісамі часта здавалася, што ён шмат хвалюецца і нават нервуецца: «Мужчынкі, мужчынкі, строімся, як будзем на сцэне…», «Рыхтуемся, рыхтуемся. Хутка наш выхад…».

На рэпетыцыях усё было ідэальна вывучана і адпрацавана. Але ўсё жыццё на сцэне, ён ведаў, што і як павінна быць.

У 2018 годзе народнаму ансамблю песні і танца «Спадчына» прысвоілі імя Іосіфа Сушко.

### І пра іншых музыкантаў з фотаздымка

На фотаздымку побач з Іосіфам Сушко – навучэнцы музвучылішча. Яны пасля паступілі ў кансерваторыю. Некаторыя вучыліся ў народнага артыста СССР і БССР прафесара **Віктара Роўды**. **Анатоль Матвіеўскі** працаваў ў Мінскім абласным упраўленні культуры, **Генадзь Дубраўка** спяваў у Дзяржаўнай харавой капэле імя Рыгора Шырмы. **Міхась Бохан** кіраваў Беразінскай дзіцячай музычнай школай, **Арэст Далжонак** кіраваў вядомым народным хорам вёскі Казловічы на Случчыне. Яму прысвоенае ганаровае званне заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

**Браніслаў Гембіцкі** і **Яўген Вахмялін** выкладалі ў дзіцячай музычнай школе ў Маладзечне, **Юры Шутовіч** кіраваў хорам студэнтаў БДУ, **Аляксандр Пыжык** працаваў у музвучылішчы і Лебедзеўскай харавой капэле.

Вось такія ўспаміны навеяў здымак з майго творчага архіва.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**Маладзечна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Памёр мастак, музыкант, краязнаўца і аўтар «Рэгіянальнай газеты» Юрась Церабун



### Юрась Церабун пайшоў з жыцця 25 лістапада.

Ён шмат гадоў быў выкладчыкам цымбалаў у Маладзечне. У 2018 годзе ў Палацы культуры адбылася выстава яго графікі.

Церабун нарадзіўся ў 1944 годзе на Беласточчыне на тэрыторыі сённяшняй Польшчы. Вырас у Смаргоні, куды пасля вайны рэпатрыяваліся яго бацькі разам з дзецьмі.

У Смаргоні закончыў сярэднюю школу, затым паступіў у Маладзечанскае музычнае вучылішча (цяпер Маладзечанскі дзяржаўны музычны каледж імя М.К.Агінскага). У 1965-67 гадах наведваў студыю выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кіраўнікамі якой былі Харашэвіч, Раздзялоўская і Асановіч.

Юры Церабун працаваў выкладчыкам па класе цымбалаў у Маладзечанскай дзіцячай музычнай школе. Узнагароджаны Ганаровымі знакамі Міністэрства культуры СССР «За выдатную працу» і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь «За значны асабісты ўклад у развіццё беларускай культуры».

«Мастакі пакідаюць нас, але застаюцца іх творы, вучні і ўспаміны», – напісаў у адным з артыкулаў Юрась Церабун.

Калектыў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» прыносіць спачуванні сваякам і блізкім творцы.

**Аддзел інфармацыі.**



Калі не паспееш звязацца з арэндадаўцам цягам некалькіх хвілін пасля з'яўлення аб'явы, кватэру, хутчэй за ўсё, ноймуць іншыя.

# Прыстойныя цэны і вялікі попыт. Як я шукаю кватэру ў Маладзечне

**У Маладзечне рынак арэнднага жылля нагадвае сітуацыю з прадуктовымі карткамі ў 1990-х, дзе карткі – гэта знаёмыя. Чым больш у цябе знаёмых, тым прасцей знайсці кватэру. А калі ты прыязджаеш у абсалютна незнаёмы горад, то можа здавацца, што ў Маладзечне здаюць жыллё выключна на суткі.**

З аднаго боку, пасутачныя кватэры – больш перспектыўны бізнес у грашовым плане: можна зарабіць хутчэй і больш. Але ёсць пэўная рызыка – наняць памяшканне могуць нядобрасумленныя людзі. Аднак усё роўна незразумела, чаму прапановы пасутачнага жылля ў Маладзечне пераважаюць над доўгатэрміновымі.

## Перад Маладзечнам былі Полацк, Наваполацк і Мінск

Я наймала жыллё ў трох беларускіх гарадах на працягу шасці год: падчас вучобы ў Полацкім дзяржаўным універсітэце і калі працавала журналістам у Мінску. У Полацку і Наваполацку на пошукі кватэры людзі аддаюць часу не больш, чым некалькі гадзін. Там выходзіць газета з аб'явамі, дзе людзі змяшчаюць на некалькіх старонках прапановы па арэндзе. Галоўнае пытанне – колькі ты гатовы аддаць за памяшканне. Некаторыя шукаюць жыллё ў сацыяльных сетках, дзе таксама можна знайсці кватэру за дзве гадзіны максімум.

**На пятым курсе ўтрох з сяброўкамі здымалі полацкую двухпакаёвую кватэру за 80 долараў.**

З Мінскам атрымалася адначасова нашмат прасцей і цяжэй. Мае знаёмыя і я наймалі кватэры праз рыэлтараў. Рыэлтары працуюць па дзвюх схемах: перадаплата і аплата па факце. З варыянтам перадаплаты трэба заплаціць работніку рыэлтарскай кампаніі грошы, і ён пачне шукаць жыллё. Не факт, што знойдзе, але грошы застаюцца ў яго – працаваў жа. Аплата па факце – ты плаціш рыэлтару толькі ў тым выпадку, калі ён знайшоў кватэру і ты яе наймаеш. Рыэлтары могуць прапанаваць некалькі варыянтаў, усё залежыць ад сезона і колькі ты гатовы аддаць грошай.

У Мінску вялікі рынак арэнднага жылля, таму некаторыя не ідуць у рыэлтарскія кампаніі, а шукаюць у інтэрнэце: сацыяльных сетках, суполках у мэсэнджэрах. Кватэры здаюць часта, хутка, і можна знайсці практычна ідэальны варыянт для сябе. Напрыклад, я наймала аднапакаёвую ў Серабранцы за 150 долараў.

## Як наняць кватэру ў Маладзечне?

У Маладзечне ёсць дзве газеты і тры суполкі ў інтэрнэце, дзе можна знайсці актуальныя аб'явы пра арэнду. Інфармацыю можна пашукаць і на буйных сайтах-барахолках, але там кватэры з'яўляюцца рэдка. Часцей за ўсё арэндадаўцы ідуць простым шляхам: пішуць невялічкае паведамленне ў суполцы і чакаюць, хто хутчэй адгукнецца. Паведамленні прасачыць не цяжка, але складана паспець своечасова на іх адказаць.

**Насамрэч, падаецца, адзіны шлях наняць кватэру – тэлепатычна даведацца ў арэндадаўцы, што ён можа ў бліжэйшы час кінуць аб'яву ў якую-небудзь суполку ў сацыяльнай сетцы. А потым дазваніцца ці дапісацца да яго цягам пяці хвілін. Калі пазней, то кватэру могуць ужо і наняць.**

Іншая справа ў грошах. Маладзечанскія цэны не кусаюцца. Хаця аддаваць 130 долараў за аднапакаёвую кватэру без мэблі ва Усходнім на ўездзе ў горад – неяк занадта. Але я наняла, таму што іншых варыянтаў не было. Два тыдні таму прыйшлося з'ехаць.

## За два тыдні не з'явілася ніводнага варыянту

Калі ў Полацку ці Мінску за адзін дзень можна паглядзець да пяці кватэр, то ў Маладзечне за гэты час безвынікова гартаеш стужку з надзеяй на прывабную аб'яву. За два тыдні пошукаў дазванілася на дзясятак нумароў, але ўсе кватэры здалі. Гэта ўжо не кажучы пра «можна паглядзець» – да гэтага моманту дайсці ў працэсе складана і, мабыць, неверагодна.

Адна з маіх знаёмых у Маладзечне шукала кватэру некалькі месяцаў. У яе былі свае патрабаванні: каля вакзала, ніякага стракатага дэкору, ламінатаў і нацяжных столяў, і гэтак далей. Дзіўна, але такую кватэру яна знайшла. Яшчэ больш дзіўна, калі патрабаванняў, акрамя колькасці пакояў, няма, але кватэра не знаходзіцца.

Незразумела, як людзі шукаюць і паспяхова знаходзяць арэнднае жыллё ў Маладзечне, калі па ўсіх аб'явах кватэры здаюць менш чым праз паўгадзіны.

**І ўвогуле цікава, а колькі людзей шукаюць безвынікова маладзечанскія пакоі і колькі часу выдаткоўваюць. У мяне ідзе другі тыдзень.**

А як вы шукалі сабе кватэру ў Маладзечне?

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» ўсё яшчэ ў пошуках арэнднай кватэры і прымае прапановы. Тэлефон Настассі – (8-033) 645-11-10.



Фота Таццяны РАМАНОВІЧ.

Кацярына Смолік з сынамі Цімафеем і Аляксеем.

## Дапамагаюць бацькам дзяцей з інваліднасцю

**У Маладзечне на базе Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва стартаваў міні-праект «Вектар» для бацькоў, якія выхоўваюць дзяцей з асаблівасцямі развіцця.**

Па словах кіраўніка клуба «Мы разам» **Алены Камісарук**, міні-праект праходзіць у рамках праекта «Пашырэнне ўдзелу грамадзянскай супольнасці ў прыняцці рашэнняў па пытаннях сацыяльнай інтэграцыі ў Беларусі».

**– Міні-праект будзе доўжыцца да красавіка 2020 года. І наша галоўная задача – навучыць бацькоў новым формам работы з дзецьмі, каб займацца з імі дома, – тлумачыць Алена.**

Адна з такіх форм – handmade. Сумесная творчасць бацькоў і дзяцей збліжае і дорыць радасць зносін. Разам сваімі рукамі можна змайстраваць упрыгожванне для дома або сувенір для бабулі і дзядулі. Арганізаваць майстар-класы для бацькоў дапамаглі педагогі Маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік». Заняткі праводзіліся менавіта для мам, але дзеці таксама з задавальненнем далучаліся да творчага працэсу.

– Сёння мы з сынамі робім цікавы магніт на халадзільнік. Дзецям вельмі падабаецца, нават малодшы Цімафей дапамагае. Мы любім наведваць розныя мерапрыемствы. У «Маладзіку» мы не ўпершыню, прыходзілі на навагодні ранішнік. Дзеці былі ў захапленні! – дзеліцца ўражаннямі **Кацярына Смолік**.

Міні-праект «Вектар» праводзіцца сумесна з Маладзечанскай раённай арганізацыяй Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа. Пакуль мамы былі занятыя справай, валанцёры арганізацыі, навучэнцы гандлёва-эканамічнага каледжа, гулялі з самымі малодшымі.

**– Многія людзі хочуць дапамагаць, але не ведаюць, як гэта зрабіць. Мы даведаліся аб арганізацыі Чырвонага Крыжа і ўступілі ў яе, каб рабіць дабро, – распавядае Юлія Арловіч.**

– Я лічу, што кожнаму чалавеку трэба адпачываць. І мамам, якія сядзяць дома з дзецьмі, таксама неабходны зносіны. І мы ім у гэтым дапамагаем.

**Ірына СЛІЖЭЎСКАЯ,**
**навучэнка гуртка «Школа журналістыкі».**



Фота Святланы КУРЭЙЧЫК.

Дырэктар Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага і кіраўнік сімфанічнага аркестра каледжа Рыгор Сарока.

# Рыгор Сарока: «Я пайшоў самым складаным шляхам»

МАЛАДЗЕЧНА

**28 лістапада маэстра Рыгор Сарока адзначаў 75-годдзе. З нагоды прыгожай даты мы папрасілі яго распавесці пра тое, чым ён ганарыцца.**

### Пра ўзрост

– Усе кажуць, што я і блізка не выглядаю на свой узрост. Так бывае, час ляціць імгненна, калі жывеш запоўненым жыццём і не хворы. Увесь час у праектах, рэпетыцыях, грамадскіх справах. Я сам не веру, што мне столькі гадоў, і доктар па аналізах сказала, што арганізм мой на 15 год маладзейшы.

**Запрашаюць выступіць у канцэртах для самых розных мерапрыемстваў – губернатарскі баль, баль для мінскіх студэнтаў – паўсюль запатрабаваны наш сімфанічны аркестр.**

А дзе мы выступаем – на галоўных канцэртных пляцоўках розных краін.

### Вялікі чалавек у невялікім горадзе

**– Уладзімір Калачык сказаў, што найлепшыя кіраўнікі – якія доўга працуюць на адным месцы і развіваюць як накірунак, так і сваю мясцовасць. А не тыя, для каго кожная пасада – дзеля прыступкі кар'еры.**

– Цалкам згодны з ім. Мы з ім сябруем, жылі ж у вёсцы. Ён быў старшынёй калгаса, мая мама ў яго працавала. Я сабе сказаў, што буду ездзіць па свеце, але жыць і працаваць буду тут. Не люблю вялікія гарады. Мне трэба лес, прырода. Хаця я па натуры не чыноўнік, але для ўстановы атрымалася многае зрабіць – рэканструкцыю залы, музычнае падвор'е, ні адзін каледж не можа пахваліцца такой матэрыяльна-тэхнічнай базай, як наш. Зрабіў 66 аўдыторый – паўсюль парадак і прыгажосць. А якія інструменты! Аднак мяне тут трымаў найперш сімфанічны аркестр.

### Не хацеў быць дырэктарам

Мне заўсёды казалі, што я пайшоў самым складаным шляхам, узяўшы кіраўніцтва сімфанічным аркестрам.

Перад маім прызначэннем бачыў, якая тут была кадравая праблема. За дваццаць год змянілася шэсць кіраўнікоў. Калектыў быў неспакойны. 40 педагогаў ездзілі з Мінска, толькі чакалі лепшай прапановы. Найбольшы тэрмін, які пратрымаўся адзін з дырэктараў, – шэсць год. Сказаў сабе, што я адпрацую сем. А затрымаўся на 39.

**Дзіцем я слухаў па радыё оперны спектакль, не адрываючыся, цалкам.**

Каб кіраваць паспяхова, неабходна стварыць камфортны псіхалагічны клімат. Нават калі нешта кепскае рабілі мне, я рабіў у адказ добрае. Паставіў на мэце пакінуць добры след. Для гэтага запрашаў у супрацоўнікі не тых, хто слабейшы за мяне, запрашаў таленавітых людзей. Каб адчуваць спаборніцтва з імі. Гэта памылка, калі «я дуб, вакол кусцікі». Поспех будзе тады, калі вакол дуброва. Дзякуючы гэтаму стварылі магутны калектыў, нашы музыканты грымяць ва ўсім свеце.

А з такім калектывам можна брацца і за самыя амбіцыйныя праекты. Напрыклад, Міжнародны сімфанічны форум-конкурс кампазітараў краін СНД. Гэта найскладаная музыка, гармонія. Адладзілі праект «Масты Сяброўства: Беларусь-Расія».

Спецыяльна для вучняў старэйшых класаў музычных школ стварылі конкурс імя Агінскага – каб і ў педагогаў быў стымул давучваць падапечных. Надаўшы ўстанове імя Агінскага, я стараўся напоўніць гэта сэнсам. Да 255-годдзя прапанаваў стварыць кнігу пра сляды роду Агінскіх і тое, як мы ўшаноўваем іх памяць.

### Пра адпачынак

Я пастаянна ў абед чытаю. Ад Караткевіча атрымліваю асалоду ад мовы. Гюго, Салжаніцын, Муракамі, ні дня без кнігі.

На выхадных езджу на лецішча, пасадзіў там сад. Зрабіў прыгажосць. Каб з унукамі можна было паганяць мячык.

### Поспех і каханне

Каб выступаць у Маладзечне, трэба заўсёды ствараць новую праграму. Таму ў нас заўсёды поўная зала. А пасля канцэртаў не магу заснуць. Трэба цішыня.

Я люблю прыгажосць, а дома павінны быць тыл. Мы з жонкай Святланай працуем у блізкіх сферах. Святлана і Палац культуры заўсёды дапамагалі ў маіх шалёных праектах. Як бы я без іх паставіў оперу? Але ж і палацу гонар, што выйшаў праект, народжаны і імі. Яна мой аднадумца, і гэта ў вельмі многім падтрымлівае.



Падрыхтавала
Зоя
ХРУЦКАЯ
regionnews
@rh.by
(8-033)
66-719-77

# Апарышы, драўляныя вокны і гукавы масаж. Як у Камарове дапамагаюць зрабіць уласны бізнес

**Бізнес-інкубатар у Камарове дапамагае ахвотным стварыць уласны бізнес. За два гады 60 чалавек прайшлі навучанне па маркетынгу і бізнэс-планаванні.**



У Зарудзічах на Смаргоншчыне робяць экалагічныя драўляныя вокны.

Трэць з іх атрымалі стартавы капітал ад праекта Еўрапейскага саюза па развіцці сельскіх тэрыторый.

Вёска Камарова знаходзіцца ў Мядзельскім раёне. Яна стала вядомай на ўсю краіну і за яе межамі дзякуючы таму, што тут працуе адзіны ў Беларусі Цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва. Галоўным натхняльнікам бізнес-інкубатара стаў **Эдуард Вайцяховіч**. Па яго словах, у вёсках нашмат прасцей займацца бізнесам, а цяпер сельская гаспадарка – перспектыўны накірунак. У бізнес-інкубатары дапамагаюць зразумець, як пабудаваць уласнае прадпрыемства.

**Ілля Агаркоў** са Смаргоні, **Аляксандра Чыжэўская** з Зарудзічаў Смаргонскага раёна і **сям'я Трыбулёвых** з Чары Астравецкага раёна паспяхова развіваюць свае праекты. Бізнесмены аддаюць перавагу сельскай мясцовасці, экалагічнасці прадуктаў і прадпрыемстваў.



На экаферме ў Смаргоні вырошчваюць апарышаў.





У Камарове нават ёсць свая пякарня, якая месціцца ў міжваенным будынку.

### «Супрацоўнікі павінны быць адказныя і не гідлівыя»

**Ілля Агаркоў** са Смаргоні адкрыў сваю экаферму ў родным горадзе. Ён кажа, што ішоў да ідэі вырошчваць апарышаў ад пачатку 2000-х, але рабіў гэта ва ўласнае задавальненне. Ілля – рыбак, таму самастойна вырошчваў апарышаў для рыбалкі.

Адкрыў бізнес пару год таму і цяпер стараецца выйсці на акупляльнасць. Калі ён толькі пачынаў вырошчваць апарышаў, на беларускім рынку пераважна былі апарышы польскай вытворчасці. Цяпер сітуацыя змянілася, і дамінуюць беларускія вытворцы. Ілля таксама адзначае, што бяра на працу не ўсіх запар.

– Вельмі важна, каб чалавек не быў гідлівы. Мы ж працуем з лічынкамі мясной мухі. Яшчэ важна, каб работнікі былі адказныя. Калі чалавек, напрыклад, забудзе пра тэмпературу ў інсектарыуме, то прадпрыемства можа прастаяць два тыдні.

Агаркоў прызнаецца, што рыбачыў у гэтым годзе ўсяго пяць хвілін. Уласны бізнес забірае шмат часу, а ў дзень ён працуе прыкладна па 14 гадзін.

### Сямейная справа сталяроў

**Аляксандра Чыжэўская** пасля навучання ў бізнес-інкубатары наладзіла вытворчасць экалагічных драўляных вокнаў. Аляксандра жыла ў Мінску, пяць гадоў таму вярнулася ў Зарудзічы і стала калегам бацькі.

Яе бацька працаваў у сталярнай майстэрні. Цяпер робіць мэблю, дзверы і лесвіцы. Аляксандра вырашыла працягваць сямейную справу. Над вокнамі ў майстэрні працуюць сем работнікаў, 90% прадукцыі ідзе на экспарт.

Аляксандра кажа, што ў вёсцы жыць камфортна, але ў апошні час з'яўляюцца праблемы, якія могуць паўплываць на якасць жыцця. Напрыклад, у суседнім Залессі хацелі закрыць амбулаторыю.

### Гукі Тыбета на астравецкім хутары

**Алена** і **Юры Трыбулёвы** займаюцца экатурызмам. У іх ёсць аграсядзіба на хутары Чара ў Астравецкім раёне. Трыбулёвы ладзяць туры, у якіх акрамя вясковага спакою і цішыні прапаноўваюць гукавы масаж.

Юры распавядае, што гэта не навінка ў Еўропе, а ў Беларусі такі тып масажу з'явіўся нядаўна. Алена і Юры праводзяць сеансы для кліентаў разам. У арсенале Трыбулёвых ёсць разнастайныя гонгі, чашы і нават гуслі.

– Я шукаю інструменты для масажу ва ўсіх краінах і кутках. Напрыклад, чашы мне даюць з розных манастыроў з Беларусі і бліжэйшага замежжа, – дзеліцца Трыбулёў.

Трыбулёвы ўпэўненыя, гукавы масаж – гэта тое, што неабходна чалавеку, які працуе ў вялікім горадзе.

– Сучасны чалавек перанасычаны інфармацыяй. Ён адчувае сябе стомленым, не можа адпачыць, а музычныя гукі даюць хуткае расслабленне, – кажа Алена.

На працягу некалькіх гадоў выхаванцы камароўскага бізнес-інкубатара пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага саюза развіваюць бізнес у сельскай мясцовасці. Вайцяховіч упэўнены, што тое, чаму ён навучае ў Камарове, дапаможа беларускім прадпрымальнікам не толькі зрабіць паспяховы праект, але і даць у раёнах новыя працоўныя месцы.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Смаргонскія «Мядзведзі» перамаглі «Метэор»

Смаргонскія «Мядзведзі» ў чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе стартавалі з упэўненай перамогі над воранаўскім «Метэорам». Матч, які праходзіў у мінулую суботу ў Смаргоні, завяршыўся з лікам 9:3 на карысць гаспадароў.

У першым туры асноўнага раўнду чэмпіянату ў складзе смаргонскай каманды хет-трыкам вызначыліся **Мацвей Дукса** і **Захар Захарэвіч**. Дубль на свой рахунак запісаў **Артур Мардаян**. Адзін гол у вароты «Метэора» забіў **Дзяніс Міцкевіч**.

30 лістапада «Мядзведзі» згуляюць дома з «Ашмянамі».

**Паводле osh.by.**

## ФК «Маладзечна» ў наступным сезоне згуляе ў першай лізе

ФК «Маладзечна» ў сезоне-2020 выступіць у першай лізе чэмпіянату Беларусі. Адпаведны ліст маладзечанскі клуб атрымаў 21 лістапада ад начальніка дэпартамента па правядзенні спаборніцтваў **Ігара Цаплюка**.

У чэмпіянаце краіны-2019 у другой лізе ФК «Маладзечна» заняў 3-е месца. Пуцёўкі ў першую лігу атрымалі дзяржынскі «Арсенал» і «Ашмяны-БДУФК».

Пры гэтым мінскае «Тарпеда», летам спыніўшы існаванне, вылецела з вышэйшай лігі і ў першай таксама не згуляе. Таму «Маладзечна» і дапоўніла кампанію «Арсенала» і «Ашмянаў».

**Паводле pressball.by.**

## Сфарміравалі склад зборнай Беларусі па лыжных гонках на этап Кубка свету ў Фінляндыі

Трэнерскі штаб зборнай Беларусі па лыжных гонках вызначыў склад на першы ў сезоне этап Кубка свету, які пройдзе ад 29 лістапада да 1 снежня ў Руке, Фінляндыя.

У складзе жаночай каманды Беларусь прадставяць **Анастасія Кірылава** і **Паліна Сераносава**. У мужчынскіх гонках трэнеры зрабілі стаўку на **Аляксандра Воранава** і **Міхаіла Сямёнава**.

На этапе Кубка свету ў Руке жанчыны разыграюць узнагароды ў спрынце, гонцы на 10 км класічным стылем і пераследзе на 10 км вольным стылем. Мужчынам таксама трэба будзе паспаборнічаць у спрынце, старце на 15 км класічным стылем і гонцы-пераследзе на 15 км вольным стылем.

**Паводле belta.by.**

## ФК «Смаргонь» прайграў пінскай «Хвалі»

У суботу, 23 лістапада, смаргонцы правялі апошнюю сустрэчу на дамашнім полі. Сапернікам стала пінская «Хваля». У першым тайме каманды не забілі ніводнага мяча ў вароты апанентаў. Аднак у другім тайме адзначыліся і смаргонцы, і пінчукі. **Арцём Куратнік** забіў на 64-й хвіліне, а праз 20 хвілін смаргонец **Уладзіслаў Кабачэўскі** зраўняў лік.

**Настасся УТКІНА.**

## Зборная Беларусі па пляжным футболе не выйшла ў 1/4 фіналу чэмпіянату свету

Зборная Беларусі па пляжным футболе завяршыла выступленне на чэмпіянаце свету ў парагвайскім Асунсьёне, не здолеўшы прабіцца ў чвэрцьфінал.

У матчы 3-га тура папярэдняй групы С беларусы саступілі расіянам 3:5. У складзе беларускай каманды галы забілі **Алег Гапон**, **Ігар Брыштэль** і **Іван Канстанцінаў**. Таксама за Беларусь выступае варатар са Смаргоні **Валеры Макарэвіч**.

**Паводле belta.by.**

## Маладзечанскага хакеіста выклікалі ў моладзевую зборную Беларусі

Галоўны трэнер моладзевай зборнай Беларусі **Дзмітры Дудзік** выклікаў у трэніровачны лагер перад МНС-2020 32 хакеістаў. У тым ліку, нападаючага «Дынама-Маладзечна» **Мікіту Пышкайлу**.

Моладзевая зборная пачне падрыхтоўку да дамашняга чэмпіянату свету 29 лістапада. Матчы моладзевага чэмпіянату свету пройдуць ад 9 да 15 снежня ў Мінску на лёдзе «Чыжоўка-Арэны». Зборная Беларусі пазмагаецца за выхад у эліту з камандамі Аўстрыі, Славеніі, Нарвегіі, Даніі і Латвіі.

**Паводле hockey.by.**



Фота dynamo-brest.by.

На адкрыцці філіяла дзіцячай акадэміі ў Ашмянах.

# Брэсцкае «Дынама» – чэмпіён. **А месяц таму ў Ашмянах адкрылі філіял дзіцячай акадэміі**

**Брэсцкае «Дынама» афіцыйна стала чэмпіёнам Беларусі ў сезоне-2019/20. Апошнія 13 год чэмпіёнскі тытул знаходзіўся ў барысаўскага БАТЭ. Дынамаўцы ў гэтым годзе не толькі ўзялі медалі, але і адкрылі дзіцячую акадэмію ў Ашмянах.**




Адборачныя гульні ў акадэміі.

28 верасня ў Ашмянах прайшоў адборачны фестываль акадэміі «Дынама-Брэст», падчас якога назвалі першых вучняў філіяла «Паўночны захад». Па выніках адбору з больш чым ста прэтэндэнтаў адабралі 25 футбалістаў. Спецыялісты акадэміі займаліся дакументамі і арганізацыяй пераезду хлопцаў у Ашмяны.

**А 1 лістапада ў Ашмянах адкрылі цэнтр падрыхтоўкі «Паўночны захад».**

Філіял размяшчаецца ў Ашмянах і ахоплівае населеныя пункты Гродзенскай вобласці.

Дырэктарам філіяла прызначаны **Аляксандр Шымкус**, галоўным трэнерам – **Андрэй Кіпра**.

Уся інфраструктура, неабходная для падрыхтоўкі футбалістаў, размешчаная кампактна і ўключае ў сябе месца для пражывання і харчавання дзяцей, агульнаадукацыйную школу, а таксама трэніровачны комплекс.

Больш падрабязна аб адкрыцці філіяла распавёў генеральны дырэктар «Дынама-Брэст» **Максім Краснабаеў**:

– Гэта сапраўды знамянальная дата, бо мы адкрываем ужо другі філіял футбольнага клуба «Дынама-Брэст». Я больш чым упэўнены, што тут, на ашмянскай зямлі, з гэтых хлопцаў мы выгадуем таленты, што з часам папоўняць першую каманду «Дынама-Брэст», будуць гуляць за зборную Беларусі і ў міжнародных турнірах.

**Настасся УТКІНА.**

